# Ніва

**ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ**

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 15 (3231) Год LXIII | Беласток, 15 красавіка 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




Белліцэі запрашаюць→3



Спадчына Уладзіміра Казберука→8-9



❖Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Прызабытыя героі

Мінае свята Уваскрэсення, пасля якога ўвага нашага грамадства кіруецца ў бок тых, што ўжо леглі ў чаргу да чаканага ўваскрэсення патойбаковага. Падаўся і я да сваіх шматгадовых сяброў, якіх прахі спачылі ў калумбарыях варшаўскіх вайсковых могілак. Эдвард, родам з Развадава, чакае ў адным канцы абшырнай некраполіі, а Аляксандр, родам з Шаматулаў, у другім. Паміж імі шмат магіл у вайсковых шарэнгах і шмат магіл традыцыйных. У ліку апошніх спачылі вядомыя персоны грамадскага жыцця Польшчы, так палітычнага, як Уладыслаў Гамулка ці Войцех Ярузельскі, або Яцак Курань, Збігнеў Рамашэўскі ці Баляслаў Падэдворны, як і мастацкага, як Ксаверы Дунікоўскі ці Юльян Тувім...

Вядомая польская пагаворка вяшчае, што чалавек страляе, а Бог кулі носіць. Яе можна парафразаваць і на іншы лад: чалавек ходзіць, а Бог яго вачыма водзіць і наводзіць на нечаканае. Вось так і мой зрок заўважыў магілу авіятара Юзафа Леванеўскага. А гэта ж у Саколцы ўганараваны авіятары, браты Леванеўскія; ці гэта не адзін з іх? Шчыра прызнаюся, што пра сакольскіх братоў нічога больш канкрэтнага, апрача прозвішча, я раней не ведаў. Цяпер давялося пацікавіцца імі...

Вытрымкі з Вікіпедыі: „Starszy syn państwa Lewoniewskich, Józef urodził się w Rosji (Petersburg). Tam też ukończył gimnazjum (1917) i wstąpił na Wydział Prawa Uniwersytetu Petersburskiego. Powołany z innymi kolegami-studentami do Armii Czerwonej (służył w niej do 1918), przerwał studia. Z powodu choroby został zwolniony ze służby wojskowej, zaś w maju 1919 przybył do Polski i wstąpił do 1 pułku szwoleżerów. W sierpniu 1924 ukończył wojskową Szkołę Pilotażu w Bydgoszczy, uzyskując stopień porucznika i specjalność pilota. Od listopada 1926 szkolenie kontynuował we Francji. Po powrocie służył w 1 Pułku Lotniczym w Warszawie jako pilot myśliwski. W 1928 pełnił służbę w Oficerskiej Szkole Lotniczej w Dęblinie. 15 sierpnia 1931 na zmodyfikowanym PWS-52, ze zwiększonym maksymalnie do 760 l zapasem paliwa, wykonał lot dookoła Polski bez lądowania, z jednym pasażerem, pokonując 1755 km w 12 godzin 35 minut. 1 września 1931 wykonał na nim lot z Warszawy do Salonik i z powrotem (2700 km). W 1932 pełnił służbę w Departamencie Aeronautyki Ministerstwa Spraw Wojskowych. Od marca 1933 Lewoniewski był pilotem doświadczalnym Stacji Doświadczalnej Płatowców Instytutu Badań Technicznych Lotnictwa w Warszawie. 11 września 1933 Józef Lewoniewski podjął z ppłk. obs. Czesławem Filipowiczem próbę pobicia międzynarodowego rekordu długości lotu w linii prostej bez lądowania dla samolotów turystycznych I kategorii (w 1929 ustanowionego przez pilota Lalouetta), na trasie Warszawa — Kazań — Swierdłowsk — Omsk (3400 km) oraz ewentualnie — Krasnojarsk (4600 km), na specjalnie przerobionym samolocie PZL.19 (m.in. dodanie dodatkowych zbiorników z paliwem) ze znakami SP-AHH. Po starcie z lotniska Okęcie i ośmiu i pół godzinach lotu, w wyniku silnej turbulencji w chmurach, doszło do przeciągnięcia i wejścia w niezamierzony korkociąg. Samolot udało się wyprowadzić z korkociągu tuż nad ziemią, jednak maszyna zahaczyła skrzydłem o ziemię i rozbiła się we wsi Zasurskoje koło miejscowości Jadrino pod Kazaniem. Pilot Józef Lewoniewski zginął, a Czesław Filipowicz został lekko ranny. Zbiegiem okoliczności, wypadek miał miejsce dokładnie rok po wypadku śmiertelnym Żwirki i Wigury. Józef Lewoniewski był rodzonym bratem Zygmunta Lewoniewskiego (1902-1937), lotnika radzieckiego, znanego z akcji pomocy rozbitkom parowca Czeluskin i z dalekodystansowych przelotów na samolocie ANT-25, który poniósł śmierć podczas próby przelotu nad biegunem północnym...”.

Цяпер чарга за малодшым братам; Вікіпедыя: „Сігізмунд Аляксандравіч Леванеўскі — савецкі палярны лётнік польскага паходжаньня, брат польскага лётніка Юзэфа Леванеўскага. Бацькі Зыгмунта Леванеўскага (Тэафіля і Аляксандар) паходзілі з Саколкі. У 1898 року выехалі ў Пецярбург у пошуках працы, дзе й нарадзіўся Зыгмунт. Большую частку дзяцінства правёў у Саколцы, працаваў рабочым. Падтрымаў бальшавікоў у Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 і наступнай грамадзянскай вайне. З 1918 служыў у Чырвонай арміі. З 1921 служыў у 4 аддзеле паветранай навігацыі ў Петраградзе, а з 1923 у Севастопальскай вайсковай школе марской авіяцыі (у наземнай службе). З 1924 навучаўся ў гэтай школе, скончыў у 1925, пасьля чаго служыў вайсковым пілётам, а таксама інструктарам сэвастопальскай школы. Зь вясны 1933 працаваў пілётам у палярнай авіяцыі Глаўсеўмарпуці. Улетку 1933 на гідрасамалёце Dornier Wal зьдзейсьніў пералёт Сэвастопаль — Хабараўск. 13 ліпеня 1933 знайшоў і ўратаваў у раёне Анадыру на Чукотцы амэрыканскага пілёта Джэймза Матэрна, лятак якога трапіў у аварыю падчас спробы кругасьветнага палёту, і 20 ліпе-

працяг☞4



Намагільнік Аляксандра Вашкевіча

*Дарыюш ЖУКОЎСКІ*

## З Космасу Крывой вуліцы ў Гарадку



* * *

*Увесну заўсёды Хрыстос Уваскрасаў,*
*У доме бабулі і дзядулі па вуліцы Кашаровай,*
*Побач была сталярня, зачыненая на Вялікдзень,*
*Увайшоўшы ў дом, казалі Хрыстос Уваскрос!*
*Заўсёды чулася ў адказ Во Істіну Увоскрос!*
*Але для нас, дзяцей з адной вуліцы,*
*Самым важным было качанне яек,*
*На тратуары ля вуліцы Млыновай,*
*Гэта быў тратуар, які злёгку нахіляўся ў бок Свярчэўскага,*
*Якраз для гэтага дзіцячага рытуалу,*
*Кожны з нас хацеў, каб выйграць як мага больш яек,*
*Пафарбаваных адзін раз у год у цыбульніку,*
*Мы нічога не ведалі, што наша здабытае велікоднае яйка*
*Як сімвал жыцця, з'яўляецца таксама сімвалам пераадолення смерці*
*У выглядзе прабівання шкарлупкі,*
*Куранятка якое выклёўваецца з яйка — знак трыумфу жыцця,*
*Знак Хрыстовага і чалавечага ўваскрасення,*
*Omne vivum ex ovo.*





# Суседнія сталіцы

Надарылася мне на мінулым тыдні пабываць у дзвюх сталіцах суседскіх дзяржаў — Мінску і Кіеве. Пры Савецкім Саюзе абедзве называлі гарадамі-героямі. Найменні гэтыя былі абсурднымі, як і многае на тэрыторыі дзяржавы, што займала шостую частку зямнога шарыка. З таго часу ўцякло шмат вады, Мінск і Кіеў даўно — сталіцы незалежных дзяржаў. Яны вельмі моцна змяніліся за чвэрць стагоддзя, мадэрнізаваліся і набылі істотна іншае аблічча.

Мне, як чалавеку з перыферыі і закончанаму правінцыялу паводле светапогляду, вельмі цяжка ў вялікіх гарадах. Прызнаюся, што ў тым жа Мінску адчуваю сябе заўсёды дыскамфортна — найперш з-за бясконцай плыні машын, людскога тлуму, мітусні і вечнага спеху. У сталіцы яшчэ савецкай Беларусі я некалі пражыў пяць месяцаў, дакладней прабыў за плотам вайсковай вучэбкі сувязі. Выпусцілі за той тэрмін у горад нас — маладых салдацікаў, хіба разы два-тры. Далейшыя візіты ў горад на Свіслачы і зніклай у Лету Нямізе былі звязаныя пераважна з наведваннем футбольных матчаў ды рок-канцэртаў. Аднак, калі сталі на стадыёнах забіраць бел-чырвона-белыя сцягі, амаль перастаў сюды ездзіць. Добрых знаёмых у Мінску ў мяне не так і мала, а вось сяброў у гэтым двухмільённым горадзе зусім няма. Было пару, ды і тыя „расцярушыліся", страціліся праз гады...

Дабірацца куды-небудзь у беларускай сталіцы прыезджаму чалавеку найлягчэй на метро. Мінскі метрапалітэн адзін з самых чыстых і ўтульных. Прынамсі, з тых 15-17 метро свету, у якіх мне даводзілася бываць, паставіў бы яго ў тройку „прызёраў". На першым месцы, канешне, стакгольмскі падземны цуд з яго неверагодным планаваннем і мастацкасцю.

У Кіеве яшчэ больш тлумна, чым у Мінску. Даехаць недасведчанаму чалавеку тут таксама найлягчэй на метро. Кіеўскі метрапалітэн адзін з самых глыбокіх у свеце. Параўнацца з ім па глыбіні можа хіба толькі пецярбургская падземка. Калі на эскалатары спускаешся ў жэрла гэтага глыбіннага падзямелля, становіцца ніякавата. А калі выбіраешся з гэтай бясконцай і густой людской плыні наверх, аддыхаешся асабліва.

Дык вось Кіеў істотна кантрастуе з Мінскам. Тут не так чыста, асабліва калі адысці ад цэнтральных пляцаў і вуліц. Аднак у параўнанні з гэткім „мемарыяльным" і вылізаным Мінскам у сталіцы Украіны куды больш жыцця, ці як выслаўляецца моладзь, драйву. Праезд, дарэчы, у кіеўскім метро каштуе 5 грыўняў, што складае прыблізна восьмую частку аднаго еўра. У Мінску ён істотна даражэйшы — 65 капеек — прыблізна чвэрць таго ж еўра. Харчаванне ў Кіеве таксама прыкметна таннейшае і выйграе па смаку.

Апранаюцца кіяўляне (ці кіяне — нават не ведаю, як правільней казаць) прыкметна больш сціпла і бядней, чым насельнікі беларускай сталіцы. Лоску тут сапраўды меней, чым у нашых сталічнікаў. Нават старая інтэлігенцыя ў сваіх бярэтках і кашнэ выглядае неяк асабліва сентыментальна. У Кіеве больш кантрастаў, чым у Мінску. Шыкоўныя крамы на паверхні і ў метрагарадзе тут суседнічаюць з убогімі жабракамі на вуліцы.

Што датычыць мовы, то ў Кіеве рэальнае двухмоўе — камунікацыя напоўніцу ідзе і па-ўкраінску, і па-руску. Так што істэрычная маскоўская прапаганда пра ўціск рускай мовы ва Украіне — абсалютная хлусня. Няма праблем і са зваротам па-беларуску. Практычна цэлы час размаўляю ва Украіне на сваёй мове і ніколі не меў нейкіх праблем ці непаразумення. Што датычыць Мінска, то за апошнія дзесяць гадоў тут пабольшала мовы тытульнай нацыі — у кожны, не такі часты сюды прыезд, заўважаю, што большае беларускамоўнай рэкламы, час ад часу чую родную мову, звароты на ёй выклікаюць адэкватную рэакцыю. У тым жа метро выразна адчуваецца, што гэта не нейкі безабліччы савецкі горад, а беларуская сталіца. Думаю, што мае назіранні аб'ектыўныя, паколькі западозрыць у сімпатыі да „горада-героя" мяне цяжка. Словам, калі такая тэндэнцыя захаваецца, то і ў Мінску гадоў праз дзесяць можа настаць рэальнае двухмоўе.

Такія знешнія ўражанні ад суседніх сталіц. Лепш, канешне, адзін раз убачыць самому, чым сто разоў пра гэта прачытаць.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Я на нішто не намякаю

У 2010 годзе вясной свет надалей перажываў вялікую траўму. На працягу некалькіх тыдняў я старанна сачыў за навінамі, рыхтаваў запіскі. Не ведаю чаму, я зачыніў іх на сем гадоў у шуфлядзе. Вясной 2018 года я зноў да іх заглянуў...

У выніку студзеньскага землятрусу на Гаіці загінулі 200 тысяч чалавек. Мільёны людзей страцілі свае дамы і ўсю сваю маёмасць. На выспе запанаваў голад. Распаўсюджваліся эпідэміі. Але ў тыя гады голад і эпідэміі былі амаль штодзённай з'явай. Недаяданне людскага насельніцтва дасягнула паўмільярда чалавек. Па гэтай прычыне кожны год памірала ад голаду 100 мільёнаў чалавек, у большасці дзяцей. Такім чынам, штодзённы лік смяротных ахвяр ад голаду складаў чвэрць мільёна. Паводле справаздачы ААН, гэтая лічба павялічваецца. У тым жа дакладзе таксама адзначаецца хуткі прагрэс смяротнасці, выкліканай анарэксіяй і булііміяй. Эпідэмія нават прагрэсіруе. З-за анарэксіі 5000 людзей ва ўсім свеце памерлі. Крыху менш з-за булііміі, таму што толькі 3500. Аднак ацэнкі росту гэтага тыпу выпадкаў выклікаюць трывогу. У прыватнасці, булімія, якая ўключае ў сябе імпульсіўнае абжыранне і вырыгванне ежы. Толькі што баланс ежы, якая паглынутая і выкінутая сілай са страўніка, у выпадку пацыента з булімій мае адмоўны баланс, што прыводзіць да галадання. Не вельмі эстэтычная, але вельмі трапная метафара заходняй цывілізацыі.

Рэкорды папулярнасці тады, як і сёння, білі ў сусветных тэлеканалах кулінарныя шоў. Публічнае смактанне, цямканне, жуйкі і адрыжкі сталі любімай забаўкай мільёнаў еўрапейцаў, амерыканцаў, аўстралійцаў і іншых сытых нацый. Жратва працягвалася таксама ў будынку Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Йорку — некалькі тысяч чыноўнікаў штодзённа працуюць над тым, як дапамагчы гаітанцам. Заказы на піцу і гамбургеры ў бліжэйшых рэстаранах вакол сядзібы ААН павялічыліся на 200%. Ці гэта з-за гэтага беспрацоўе ў Нью-Йорку стабілізавалася на ўзроўні 9,2% — невядома. Затое, вядома, аднак, што ва ўсёй Амерыцы ўжо даўно перавысіла 11,3%. Бяздомныя, бо беспрацоўныя, блукалі па амерыканскіх вуліцах і будуць блукаць. Часам справа даходзіць да спрэчак паміж імі. У маіх запісках з вясны 2010 г. ёсць такі запіс: «У ньюёркскай пятай авеню паспрачаліся трох бяздомных за месца для сну ў закавулку раскошнага буціка на 68 вуліцы. Умяшалася паліцыя. Адзін з бамжоў, пабіты, са зламанай сківіцай, быў дастаўлены ў бальніцу. На наступны дзень ён прызямліўся ў тым жа закавулку, дзе ён зноў трапіў у бойку. На гэты раз зламалі яму нос. Вядома, умяшалася паліцыя.

Вясной 2010 года, як прадбачваецца арганізацыяй «Лекары без межаў», з ліку 300 тысяч людзей, якія жывуць у цені руін, атакаваных днём полчышчамі мух, а ноччу кузуркамі, цяжка параненых, знявечаных фізічна і псіхічна людзей — ахвяр землятрусу ў Гаіці — на працягу трох месяцаў павінна было памерці каля 50 тысяч людзей. На самой справе памерла толькі 30 тысяч. Колькі з тых, хто настойваў на тым, каб выжыць — без ног, без рук, без працы і падтрымкі сям'і — дажылі да сённяшняга дня? І ў якіх умовах яны жывуць? З трох мільёнаў няшчасных, пазбаўленых дому, на вуліцы засталася палова гэтага ліку. Дарэчы, натуральна, што праблема бяздомнасці павольна вырашаецца сама. Сярэднестатыстычнае жыццё гаіцян не перавышае 40 гадоў — у асноўным з-за пастаяннага недаядання. Аж здзіў бярэ, што не даходзіць там да адчайных актаў людаедства. А гэта было адзначана ў тыя гады ў Еўропе. Яго здзейсніў натуралізаваны ў Францыі кітаец. Было доказана, што спажыў ён мазгі і грудзі дзвюх жанчын. Яны прапалі некалькі тыдняў раней і зніклі без весткі. У Францыі кожны год прападаюць без следу 15 тысяч людзей. У мінулым годзе гэты паказчык павялічыўся на 5%. Але я на нішто не намякаю.

Калі Гаіці змагалася з траўмай катастрофы, Еўропа — з паслядоўнасцю лопання фінансавых бурбалак. Адзін італьянскі футбольны клуб у матчы, — як паведамілі СМІ, — на «жыццё і смерць» быў пераможаны ў апошняй хвіліне забітым голам англійскага клуба. Паола Равіні, фанат пераможанага клуба, з-за гэтага пакончыў з сабою адпавядна самагубствам. Інтэрнэт-форумы закіпелі гарачымі дыскусіямі. Неўзабаве ўвагу інтэрнэт-карыстальнікаў заняло пытанне сенсацыйнага трансферу з клуба ў клуб гульца ў еўрапейскай лізе за 140 млн. долараў. Гэта было, верагодна, параўнальна з калькасцю гадавога бюджэту Гаіці. Але я на нішто не намякаю.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Праўдная нядзеля на Бацькаўшчыне

Вялікдзень вокамгнення прыйшоў да нас з краіны холаду і ўступіў у прастору цяпла. Некалькі месяцаў таму, апісваючы ў гэтым месцы надвор'е перад Раждаством Хрыстовым, трэба было спасылацца на параўнанні з англійскім надвор'ем і расценнем травіцы, якая чакае чарговай стрыжкі. Для адмены зараз, тыдзень перад праваслаўным Вялікаднем (акурат на каталіцкі), у Вербную нядзелю выпала такая хваля ветру, холаду, снегу і дажджу, што проста чалавеку здавалася, што гэта не першыя дні красавіка, але ў найлепшым выпадку пералом лютага і сакавіка. Стоячы з вербачкаю перад царквою, я не толькі прамок ад заліўнога дажджу, але замерз так, што наступную палову дня правёў пад коўдрай, ратуючыся ад прастуды параным малаком і малінавым чаем.

Шаленства надвор'я ў пераносным і даслоўным сэнсе нават буслоў выкінула з падляшскай тэрыторыі. Над маёй роднай вёскай людзі бачылі іх штук чатырнаццаць, двое прысела на сваю буслянку, але пасля паловы дня марознай пагоды не стрымалі і паляцелі ў заходнім напрамку. Пакуль іх не відаць у вёсцы. Аж страх падумаць, што калі яны не з'явяцца на электрычным слупе пасярэдзіне вёскі, тады народныя прадказанні пра знікненне сяла набяруць яшчэ большай рэальнасці. Гэтае адчуванне напэўна вельмі адвечнае для настаяцеля нашага прыхода ў Вэрстоку, які з малітвай наведвае сваіх прыхаджан не толькі ў Раждзественскі перыяд, але і перад Вялікаднем. Прыходзіць ён са словам Божым у гэты пушчанскі канец свету таму, што многія прыхаджане не пераступяць парогу царквы на Усяночную службу па прычыне ўзросту і хваробы. Таму апрача малітвы бацюшка таксама спавядае нямоглых людзей, грахі якіх многім людзям у іншых умовах зямнога жыцця маглі б быць узорам чалавечага шляху і згоднасці жыцця з уласным сумленнем. Таму бачу і наглядаю, як штораз цяжэйшым бывае ў жыхароў прыпушчанскіх вёсак адчуванне чалавечай радасці ад Хрыстовага Уваскрэсення. У іхнім светаўспрыманні чаканне прамінання і адыходу з зямлі без лішняга клопату сваім сямейнікам і блізкім з'яўляецца выклікам і спадзяваннем на Божую ласку.

Перад намі Праўдная нядзеля — час памінання продкаў і ўсведамлення імгненнасці зямнога прамінання. На вэрстоцкія могілкі і пустыя вуліцы навакольных сёл прывядзе яна людзей з усёй Польшчы і свету. Менавіта на Провады, а не ў Пасхальную нядзелю сустрэнеш доўга не бачаных аднавяскоўцаў ці аднагодкаў. Перамога жыцця над смерцю бачна ў гэты дзень толькі на месцы, дзе спачываюць нашы продкі. А вакол могілак і вёсак штораз больш і больш лесу, а штораз менш і менш чалавечага голасу. І нават птушкі неяк сцішана выспеўваюць веснавую прыгажосць. Спяваць самім сябе і толькі дрэвам гэта не тая аўдыторыя, якая можа іх хваліць жыватворным словам. Таму нават няма каму паназіраць і ўслухацца ў шчымлівасць адвечнай песні кахання вялікіх сэрцаў маленькіх жаваранкаў і салаўёў. Распасцерці крыльцы і перакруніць галоўку ў чалавечы бок, азіраючыся не толькі на сваё роднае, птушынае племя, любяць гэтыя паднебныя пеоны. Перад людскімі вачыма штораз больш і больш імглы, якая плаўна разліваецца ў туманную, малочную дарогу забыцця. Быццам бяльмо назаўсёды павісла сваёй аморфнай структурай над крайнай маёй дзіцячай шчаслівасці. Ты быццам яшчэ ёсць, а ўжо цябе няма. Няма ўжо таго свету, хутка і няўмольна не будзе і нас саміх.

Праўдная нядзеля як штогод праводзіць свой урок пра самую простую праўду зямнога існавання. Толькі крыжы здаюцца быць мацнейшымі за нас. Яны не выкрыкваюць свайго болю і боязі. Яны ў маўчанні і пакоры схіляюцца павольна і дастойна перад веліччу прыроды і Божай вечнасцю. Ім таксама патрэбная чалавечая апека і добрая рука, якая ўпрыгожыць іх кветкамі, ручнікамі і словамі малітвы ў час добрых і дрэнных спраў. Памятайма пра людзей, памятайма пра крыжы, пад якія таксама і нас правядуць у апошнюю зямную дарогу. Праўдная нядзеля праводзіць нас усіх па нашай Бацькаўшчыне.

**Яўген ВАПА**



# Запрашаем у нашы белліцэі

Мерапрыемствы адкрытых дзвярэй, якія былі наладжаны 13 сакавіка ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім і 21 сакавіка ў Агульнаадукацыйным ліцэі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, паказалі вялікі патэнцыял нашых белліцэяў і вялікую зацікаўленасць гімназістаў з Бельскага і Гайнаўскага паветаў нашымі адукацыйнымі ўстановамі, у якіх выкладаецца беларуская мова, культура і гісторыя, што з'яўляецца несумненным козырам абедзвюх навучальных устаноў. Наведвальнікам ліцэяў паказваліся прыгожыя класныя кабінеты з сучаснай тэхнікай, лабараторыі, прэзентаваліся дасягненні, якімі могуць пахваліцца нашы белліцэі. Настаўнікі распавядалі пра козыры вучобы ў белліцэях, паспяховы ўдзел белліцэістаў у алімпіядах і добрыя вынікі на матуральных экзаменах. Белліцэісты таксама расказвалі пра козыры адукацыі ў сваіх ліцэях, выступалі з беларускімі песнямі і танцамі. Гімназістам раздаваліся рэкламныя матэрыялы, якія дапамогуць ім зрабіць канчатковы выбар школы для далейшай навукі. Дырэктары Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк і Гайнаўскага белліцэя Ігар Лукашук дэталёва распавялі пра Дні адкрытых дзвярэй, мэта якіх — заахвоціць гімназістаў паступіць у белліцэі.

**У Бельскі белліцэй прыбылі гімназісты і бацькі**

— У мінулым намнога больш вучняў, чым зараз, канчала гімназіі, а яшчэ раней пачатковыя школы, і не ўсе ахвотныя даставаліся ў агульнаадукацыйныя ліцэі. Мы тады рабілі адбор ахвотных вучыцца ў нашым белліцэі. Зараз месцаў у звышгімназічных школах у Бельску-Падляшскім больш, чым выпускнікоў гімназій у Бельскім павеце. Частка іх рашаецца вучыцца ў Беластоку. Бывае, што некаторыя вучні яшчэ ў першым класе вяртаюцца ў наш ліцэй, знеахвоціўшыся вучобай у Беластоку. Нашы вучні становяцца лаўрэатамі і фіналістамі прадметных алімпіяд і добра спраўляюцца з матуральнымі экзаменамі, што прыцягвае ў наш белліцэй перш за ўсё вучняў, якія пазней хочуць паступіць у вышэйшыя навучальныя ўстановы, — сказаў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк. — Аднак інфармацыю пра наш белліцэй трэба данесці да выпускнікоў гімназічных школ і мы гэта робім перш за ўсё падчас Дзён адкрытых дзвярэй. Сёлета мы запрасілі ў школу яшчэ бацькоў гімназістаў.

Дырэктар Андрэй Сцепанюк удакладніў, што ў яго школе Дзень адкрытых дзвярэй праходзіў ад раніцы да вечара. Школу наведалі гімназісты з Бельскага павета. Спачатку адбыліся агульныя спатканні ў гімнастычнай зале белліцэя. Пра сваю школу і козыры адукацыі ў ёй расказалі дырэктар Сцепанюк, сам выпускнік белліцэя, студэнт Кшыштаф Алейнічак і белліцэісты. У гэтай жа зале адбыліся музычныя і танцавальныя выступленні белліцэістаў перад гімназістамі. Пасля мастацкай часткі госці наведалі школьныя кабінеты, пабачылі тэхніку, якая ўспамагае адукацыю і перш за ўсё пазнаёміліся з поспехамі белліцэістаў. Вучні белліцэя распавялі гімназістам пра свой выезд у сядзібу Еўрасаюза, у Страсбург, Мюнхен, Вену і іншыя гарады. Ліцэісты гаварылі, чаму варта паступіць у Бельскі белліцэй, дзе адбываецца вучоба беларускай мове, культуры і гісторыі. Вечарам у рамках Дзён адкрытых дзвярэй наведаць школу былі запрошаны бацькі гімназістаў і жыхары горада. Вучні і настаўнікі знаёмілі прыбылых з дасягненнямі школы. Бацькі гімназістаў мелі магчымасць паразмаўляць з дырэктарам школы і настаўнікамі. У Бельскім белліцэі дзейнічае больш за трыццаць гурткоў зацікаўленняў. Вольны час вучні могуць праводзіць у рамках спартыўных заняткаў, ці ў вакальным калектыве «Спадчына».
У Агульнапольскім рэйтынгу школ, арганізаваным часопісам «Перспектывы», Бельскі белліцэй заняў 15 месца ў Падляшскім ваяводстве і 4 месца ў Алімпійскім падрэйтынгу ў нашым ваяводстве.

— Трэба сказаць, што агульнаадукацыйныя ліцэі — гэта падрыхтоўка да вучобы ў вышэйшых навучальных установах. Нашы выпускнікі вучацца ў лепшых навучальных установах Польшчы і становяцца выпускнікамі лекарскіх аддзяленняў. У гэтым школьным годзе наш вучань стаў лаўрэатам, а трох ліцэістаў фіналістамі Алімпіяды праваслаўных рэлігійных ведаў. Дзве нашы вучаніцы будуць удзельнічаць у цэнтральным этапе Алімпіяды расійскай мовы, — сказаў дырэктар Андрэй Сцепанюк.

Вучні Бельскага белліцэя дабіліся таксама поспехаў у Алімпіядзе ведаў аб бяспечнасці і абароннасці краіны і ў іншых алімпіядах і конкурсах, вынікі якіх не ўлічваюцца ў рэйтынг школ. Па адным вучні Бельскага і Гайнаўскага белліцэяў сталі лаўрэатамі, а па некалькі вучняў фіналістамі Алімпіяды беларускай мовы. Вучні Бельскага белліцэя выбіраюць профіль навучання ў школе і маюць магчымасць вучыцца ў класах з політэхнічным ухілам (дзе вядзецца пашыранае навучанне матэматыцы, інфарматыцы і фізіцы), з медыцынскім (з пашыраным навучаннем біялогіі і хіміі), з юрыдычна-гуманітарным (з большай колькасцю ўрокаў гісторыі, англійскай і расійскай моў) і з эканамічна-політэхнічным (з пашыраным навучаннем матэматыцы, геаграфіі, англійскай і расійскай мовам).



■ Дырэктар Гайнаўскага белліцэя Ігар Лукашук спатыкаецца з вучнямі мясцовай гімназіі № 2

**У Гайнаўскі белліцэй гімназісты прыбывалі ў запланаваны час**

— Мы сёння арганізуем Дзень адкрытых дзвярэй, які назвалі таксама Гасцінным днём, бо нашым госцям, гімназістам з Гайнаўскага павета, хочам паказаць шматлікія нашы прапановы. Мы запланавалі дзень прэзентацыі нашага белліцэя для вучняў паасобных гімназій і запрасілі іх прыбыць у нашу школу на канкрэтную гадзіну, каб можна было больш дакладна паказаць школу. Гімназісты, якія прыехалі зранку, маглі паплаваць у крытым басейне, у які з нашай школы можна перайсці не выходзячы на панадворак. Вучні, якія прыбылі пазней, не маглі ўжо плаваць, бо ў водным парку пачаліся спартыўныя спаборніцтвы па плаванні, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белліцэя Ігар Лукашук.

Пазней гімназістаў запрасілі паглядзець вялікую гімнастычную залу і залу для трэніровак. У актавай зале школы адбыліся спатканні з дырэктарам Ігарам Лукашуком і настаўнікамі, якія расказвалі пра высокі ўзровень навучання ў Гайнаўскім белліцэі, поспехі белліцэістаў у прадметных алімпіядах і добрыя вынікі выпускнікоў белліцэя на матуральных экзаменах. Перад гімназістамі займальна выступілі школьны калектыў «Знічка» і танцавальны калектыў з народнымі беларускімі танцамі. Запрошаныя вучні наведалі паасобныя школьныя кабінеты, дзе настаўнікі і белліцэісты распавядалі пра вучобу па канкрэтных прадметах, паказвалі добрыя ўмовы адукацыі ў Гайнаўскім белліцэі і перш за ўсё запрашалі паступаць у сваю школу. У Гайнаўскім белліцэі дзейнічаюць гурткі, якія рыхтуюць вучняў да алімпіяд і конкурсаў, гурткі зацікаўленняў, між іншым, іканапісны. Ліцэісты могуць займацца ў танцавальным калектыве або ўдзельнічаць у рэпетыцыях вакальнага калектыву «Знічка».

— Мы паказваем вельмі добрыя ўмовы адукацыі ў нашым Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы і звяртаем увагу на высокі ўзровень навучання ў нашай школе. Часопіс «Перспектывы» ў рэйтынгу агульнаадукацыйных школ прызначыў нашаму белліцэю сярэбраную адзнаку за поспехі ў алімпіядах, навуцы і іншых дзялянках, перш за ўсё за добрыя вынікі на матуральных экзаменах, якія год таму назад здало 97% выпускнікоў нашага белліцэя, калі сярэдняя для агульнаадукацыйных ліцэяў у Падляшскім ваяводстве склала 86%. У Алімпійскім рэйтынгу часопіса «Перспектывы» наша школа заняла другое месца ў ваяводстве і 20 месца ў краіне. Высокі ўзровень навучання ў нашым белліцэі супадае з добрай атмасферай у школе, якая дае вучням пачуццё бяспечнасці. Нашы ліцэісты маюць магчымасць разгортваць свае зацікаўленні падчас шматлікіх дадатковых заняткаў. Мы таксама рэалізуем аўтарскія праграмы індывідуальнай дапамогі вучням, якія рыхтуюцца да алімпіяд і конкурсаў. Сёння гімназісты маглі паглядзець вельмі добра абсталяваныя фізічны і хімічны лабараторыі і кабінеты, біялагічны кабінет з якаснымі мікраскопамі і астатнія класныя кабінеты, абсталяваныя сучаснай тэхнікай. Наладзілі мы супрацоўніцтва з гайнаўскім аддзяленнем Політэхнічнага інстытута ў Беластоку, якога лабараторыі знаходзяцца побач нашай школы і нашы вучні падчас некаторых заняткаў будуць маглі імі карыстацца пад кірункам навуковых кадраў інстытута. У нашай школе заняткі фізкультуры адбываюцца ў вялікай і добра абсталяванай гімнастычнай зале і на спартыўнай пляцоўцы «Орлік», якой мы карыстаемся разам з суседняй школай, таксама і ў зімовы час. Вучні нашай школы займаюцца на крытым басейне, у які можам уваходзіць непасрэдна праз гімнастычную залу. У нашай школе ёсць магчымасць займацца ў фільмавым кружку, дзе ліцэісты вучацца здымаць фільмы, знаёміцца з працай журналістаў. Аднак перш за ўсё важная атмасфера ў школе, бо наша школа дзейнічае як другі дом. У нас адкрыты кавярня і чытальня, дзе вучні могуць спатыкацца, займацца або адпачываць. У нашай школе робім стаўку таксама на самаразвіццё, а тое, што вучні вучацца беларускай мове, культуры і гісторыі нашага рэгіёна, гэта адзін з найважнейшых козыраў нашага белліцэя. Паміж нашым ліцэем і Бельскім белліцэем няма саперніцтва, толькі атмасфера супрацоўніцтва, якая будзе разгортвацца, — сказаў дырэктар Ігар Лукашук. — У нашым ліцэі плануем арганізаваць тры першыя класы. Нашы вучні ў першым паўгоддзі першага класа канчаткова самі ствараюць індывідуальны адукацыйны профіль, залежна ад сваіх зацікаўленняў і з улікам будучай вучобы ў вышэйшых навучальных установах. Такога спосабу адукацыі няма ў ніякім іншым ліцэі ў Падляшскім ваяводстве. Вучань пазней у павялічанай колькасці гадзін у тыдзень можа вучыцца напрыклад хіміі, матэматыцы і ведам аб грамадстве або напрыклад біялогіі, матэматыцы і гісторыі. Гэта толькі такія прыклады, бо кожны вучань самастойна будзе сабе профіль навучання, а мы дапамагаем ім у гэтым.

Ахвотныя вучыцца ў нашых белліцэях павінны падаваць заяўкі да 22 чэрвеня 2018 года.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

1 ☞ працяг

# Прызабытыя героі

ня транспартаваў яго ў Ноўм на Алясцы. Увосені 1933 браў удзел у агітацыйных вылетах ва Ўкраіне. У лютым 1934 з двума іншымі лётнікамі накіраваўся ў ЗША, каб закупіць самалёты «Consolidated Fleetster» дзеля эвакуацыі рэштак экспэдыцыі параходу «Чалюскін». 29 сакавіка 1934 на адным зь іх вылецеў з Ноўму. Аднак самалёт з-за абледзяненьня разьбіўся падчас вымушанай пасадкі ў вёсцы Ванкарэм на Чукотцы, дзе знаходзілася база ратаўнікоў. За адвагу ў гэтай экспэдыцыі Леванеўскі, тым ня меней, быў уганараваны 20 красавіка 1934 зь яшчэ 6 лётнікамі званьнем Героя Савецкага Саюзу. З 1934 навучаўся ў Акадэміі паветраных сілаў імя Жукоўскага. Быў першым пілётам, які апрацаваў плян пералёту з СССР у ЗША праз Паўночны полюс. Улетку 1936 выехаў у ЗША, дзе закупіў гідрасамалёт «Vultee V-1A», на якім 5 жніўня — 13 верасьня 1936 пераляцеў з Лос-Анджэлес праз Сан-Францыска, Уэлен, Якуцк і Сьвярдлоўск у Маскву. Увесну 1937 выпрабоўваў у Севастопалі набытыя ў ЗША самалёт-амфібію «S-43» і гідрасамалёт «Douglas DF». 12 жніўня 1937 прадпрыняў спробу пералёту праз Паўночны полюс з Масквы ў Фэарбэнкс чатырохрухавіковым самалётам DB-A N-209 на чале экіпажу зь яшчэ 5 лётнікамі. 13 жніўня а 13:40 лятак перасёк полюс, але а 14:32 каманда паведаміла пра адмову скрайняга правага рухавіка, пасьля чаго самалёт зьнік бязь вестак і так і ня быў выяўлены. Хутчэй за ўсё, ён разьбіўся ля ўзьбярэжжа Аляскі".

Да гэтага трэба дадаць, што менавіта пасля ратавання экіпажа „Чалюскіна" былі ўведзены званні Героя Савецкага Саюза і Зыгмунт Леванеўскі быў другім у спіску першых узнагароджаных. Акрамя таго ў СССР былі выпушчаны адмысловыя паштовыя маркі з выявай Зыгмунта Леванеўскага.

А цяпер вяртаюся на Вайсковыя Павонзкі. Маю ўвагу прыцягнуў намагільнік з выявай адкрытай кнігі; заглянуў на яе старонкі, а там — прозвішча Аляксандра Вашкевіча... Вытрымкі з Вікіпедыі: „Аляксандр Аляксандравіч Вашкевіч нарадзіўся 15 (28) жніўня 1901 года ў вёсцы Белавежа Гродзенскай губерні, Расійскай імперыі (цяпер Беластоцкае ваяводства, Польшча) у беларускай сялянскай сям'і. Працаваў на паравым млыне. У 1919 годзе Вашкевіч быў прызваны ў рады Чырвонай Арміі ташкенцкім гарваенкаматам Узбекскай ССР. З кастрычніка 1919 па красавік 1920 навучаўся ў кулямётнай школе. Удзельнічаў у Грамадзянскай вайне. У 1922—1924 гадах навучаўся ў Ваеннай пяхотнай школе ў Смаленску, атрымаў званне лейтэнанта. У 1938—1942 выконваў абавязкі начальніка аддзелу навучання ў Ваеннай акадэміі імя Фрунзэ ў Маскве, адначасна вучыўшыся ў ёй (скончыў у 1942). З 1943 года прымаў удзел у баях на франтах Вялікай Айчыннай вайны. У ноч на 27 верасня 1943 паспяхова арганізаваў пераправу праз Дняпро ў раёне сяла Днянровакаменка (Верхнедняпроўскі раён, Днепрапятроўская вобласць); без стратаў у жывой сіле і тэхніцы полк замацаваўся на плацдарме і працягнуў наступ. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 26 кастрычніка 1943 за ўмелае камандаванне стралковым палком, узорнае выкананне баявых заданняў камандавання на фронце барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі і праяўленыя пры гэтым мужнасць і гераізм падпалкоўніку Аляксандру Аляксандравічу Вашкевічу прысвоена званне Героя Савецкага Саюза з уручэннем ордэна Леніна і медалі «Залатая зорка». У верасні 1944 у званні палкоўніка быў накіраваны ў Войска Польскае. 22 верасня 1944 арганізаваў і ўзначаліў 5 дывізію пяхоты. Дывізія пад яго кіраўніцтвам (у складзе 2 арміі Войска Польскага) узяла ўдзел у зацятых баях пад Баўцэнам у красавіку 1945. У раёне мясцовасці Таўэр штаб 5-й дывізіі пяхоты быў акружаны нямецкімі войскамі; 21 красавіка 1945 цяжка паранены Аляксандр Вашкевіч трапіў у палон. На наступны дзень катаваны і забіты. Знявечаны труп быў знойдзены толькі 4 мая ў лесе непадалёк ад Штыфтшвезэ. Пахаваны ў Варшаве на Павонзкаўскіх могілках 28 мая 1945 года".




Можна было б на гэтым спыніць расказ пра генерала Вашкевіча, аднак да яго варта крыху дадаць. У Белавежы цягам некалькіх гадоў адна з галоўных вуліц была названа ягоным імем; цяпер ёй вернута ранейшая назва Стачок. Магчыма таму, што так патрабавала наша Міністэрства праўды, бо... У нэце знайшоў я дадатковы расказ пра ўраджэнца Белавежы; „Przegląd Lubański; Regionalny Portal Informacyjny" так піша: „Generał Karol Świerczewski — Walter, który dowodził swoimi jednostkami [2 Армiяй Войска польскага] w pijackim zwidzie, zabronił odwrotu, ponieważ chciał samodzielnie zdobyć Drezno. W wyłom, który powstał między poszczególnymi jednostkami WP, wysłał 5 Dywizję Piechoty. Dywizja ta, dowodzona przez wybitnego dowódcę generała Aleksandra Waszkiewicza, który sprzeciwiał się niejednokrotnie bezsensownym rozkazom Świerczewskiego, nie podołała doborowym jednostkom SS i Wehrmachtu. Dostała się w okrążenie i przeszła do obrony. Niestety jednostki niemieckie pod dowództwem generała-majora Hermanna von Bronikowskiego, szefa tzw. Zgrupowania Zgorzeleckiego, które wchodziło w skład Armii Mitte feldmarszałka Schornera, zacisnęły pierścień wokół 5 Dywizji Piechoty WP. W rezultacie cały sztab 5 DP dostał się do niewoli pod Tauer i został wymordowany przez żołnierzy von Bronikowskiego, podobnie jak polscy żołnierze w Podgajach zimą 1945. Paradoksem jest, że gen. Hermann von Bronikowski był z pochodzenia Polakiem, podobnie zresztą jak gen. SS Erich von dem Bach-Żelewski, na rozkaz którego mordowano powstańców Warszawy i właśnie polskich żołnierzy w Podgajach. [...] Fragmenty protokołu sekcji zwłok generała Aleksandra Waszkiewicza, którego ciało znaleziono 04.05.1945 roku w lesie koło miejscowości Stiftwiess: "Na podstawie oględzin lekarskich... stwierdzono, że za życia był męczony i bity tępym narzędziem... . Za życia wyrżnięto mu lewe oko i powiekę, a prawe wykłuto. Następnie uderzony tępym, wielkim narzędziem w okolicę czoła, które to uderzenie spowodowało całkowite zniszczenie mózgu i złamanie podstawy czaszki, w wyniku czego nastąpił zgon". Generał Aleksander Waszkiewicz miał w chwili śmierci 44 lata, był zdecydowanym, odważnym i mającym szacunek wśród żołnierzy dowódcą. Być może Świerczewski specjalnie wysłał jego i dowodzoną przez niego dywizję na pewną śmierć. Waszkiewicz mógł bowiem po wojnie być jego konkurentem, tym bardziej że Waltera nienawidzili niemal wszyscy żołnierze, od szeregowca w wojskach polskich i radzieckich poprzez oficerów i dowództwo WP, na marszałkach Koniewie i Żukowie skończywszy. Podobno Świerczewskiego lubił za to sam Stalin i dotąd nie wiadomo właściwie dlaczego. Pewien oficer WP, który służył u boku gen. Waszkiewicza, w przypływie wspomnień wyznał, że kiedy dowiedział się o śmierci Świerczewskiego pod Baligrodem, w dwa lata po rzezi na Łużycach, poczuł ogromną ulgę: „Znów uwierzyłem w Boga i jego sprawiedliwość" — miał powiedzieć ów oficer".

Такія людскія лёсы. Не падалася б сям'я Вашкевічаў у бежанства, не стаў бы можа Аляксандр высокага рангу камандзірам. Сям'ю Леванеўскіх таксама можна лічыць бежанцамі, бо ў кага ж Зыгмунт праводзіў бы дзяцінства ў Саколцы. І чакаюць парэшткі нашых геройскіх землякоў Божай справядлівасці па шырокім свеце, куды трапілі яны па волі лёсу; і часткова па сваёй волі таксама.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



# МОЙ СЯБАР КОЛЯ З ГАЙНАЎКІ

У студэнцкія гады я жыў у Беластоку ў інтэрнаце па вуліцы Кракаўскай (на здымку). Год я жыў у пакоі нумар 414 на чацвёртым паверсе, а чатыры гады — на трэцім паверсе ў пакоі 330. Усе пяць гадоў я жыў у пакоі разам з Аляксеем, які быў родам з Менска. На першым паверсе жыў мой добры сябра з белліцэя Андрэй, які ездзіў на калясцы. Мы жылі вельмі спакойна, часта наведвалі Андрэя, разам рыхтавалі абеды, разам вучыліся і хадзілі на заняткі ва ўніверсітэт. Усё было спакойна пакуль на чацвёртым курсе не прыйшоў Коля з Гайнаўкі — мой равеснік. Ён пачаў жыць у адным пакоі з Андрэем. Не кажу, што гэта дрэнна, што ён з'явіўся, наадварот, пазітыўна раскруціў наш сяброўскі куток. Чаму? Менавіта мы, дагэтуль спакойныя студэнты, зубрылі ад сесіі да сесіі. Не кажу, часам мы хадзілі на дыскатэкі, а раз на Юр'я сябры завялі мяне ў клуб «Караоке» і я, крыху выпіўшы для адвагі, праспяваў песню «Zawsze tam gdzie Ty» гурту «Lady Pank». Але давайце раскажу пра Колю.


poranny.pl

## ДЫДЖЭЙ КОЛЯ

Калі Коля пасля выхадных прыязджаў у інтэрнат дык вахцёркі гаварылі:

— Artysta przyjechał.

Гэта дзякуючы яго дарагому на гэты час камп'ютару, які тады, у 2004 годзе, каштаваў 5 тысяч злотых. З камп'ютара Коля пускаў музыку, якой мы да гэтай пары нават не чулі. Мы слухалі такіх гуртоў, як «Н.Р.М.», «Уліс», «В:N:», а ў найбольшым парыве гуртоў «Ас» ці «Прымакі». А Коля слухаў замежнае тэхна. Ён вельмі любіў тэхна ў выкананні Pakito (Жульена Рауні), таму мы яго ахрысцілі па-свойму, па-падляшску — Коля Пакіцюк. Дарэчы, Коля, як належыць жыхару Гайнаўкі, размаўляў на падляшскім дыялекце і гэтага не саромеўся. Апрача слухання музыкі тэхна, сам яе ствараў пры дапамозе камп'ютарнай праграмы і ўсё намаўляў:

— Давай, я перапішу табе на дыск сваю музыку.

Я аднекваўся, кажучы, што я не фанат тэхна. Раз я сказаў:

— А давай я табе пастаўлю сваю музыку, — і пусціў яму дыск рускай групы «Любэ».

Колі так спадабалася, што перапісаў усе ад мяне кампакт-дыскі гурту «Любэ». Раз адрэкамендаваў мяне свайму сябру, якога зваў Мрува. Паказваючы на мяне рукой, Коля сказаў:

— Гэты госць мае многа добрай рускай музыкі

Мрува з павагай пацiснуў мне руку. Ад гэтай пары на ўвесь інтэрнат гучала група «Любэ».

## СТУДЭНЦКІЯ ІМПРЭЗЫ

Коля часта рабіў імпрэзы, на якія запрашаў нават больш за 30 чалавек. Ён вельмі лёгка наладжваў кантакты з жаночым полам, таму на імпрэзах было даволі многа студэнтак. Коля ўсіх частаваў белавежскай самагонкай і свойскімі прысмакамі тыпу каўбаса з дзіка ці паштэт з казулі. А вяндліны ў яго быў поўны халадзільнік. Раз мы ў Колі выпівалі ад 6 гадзіны вечара да 6 раніцы. Выпіваў з намі Колін сваяк, навенькі студэнт англійскай філалогіі, які на другі дзень здаваў экзамен. Пасля экзаменаў я яго спытаў:

— І што здаў экзамен?

— Здаў, а як жа.

## КОЛЯ-ВЫКЛАДЧЫК

Дарэчы, Коля быў студэнтам гісторыі. Вучыўся добра, атрымліваў стыпендыю, за якую купляў кнігі і гарэлку. Былі ў яго дзве паліцы кніг. У час, калі мы выпівалі, ён выключаў музыку і рабіў даклад на тэму прачытанай апошнім часам кнігі. Яго любімымі гістарычнымі героямі былі кароль Польшчы Стась Панятоўскі, царыца Кацярына ІІ і Юзэк Сталін (так іх Коля называў). Ён гадзінамі нам пра іх расказваў, а мы слухалі разявіўшы раты і не давяралі, што Кацярына ІІ і Стась Панятоўскі былі каханкамі або Кацярына ІІ рабіла секс з канём. Да таго лілася белавежская самагонка, якую закусвалі каўбасой з дзіка. Коля ведаў многа гістарычных цікавінак, а мы проста здзіўляліся на новыя гістарычныя факты.

## КОЛЯ-СПАРТСМЕН

Коля не хадзіў у трэнажорны зал, толькі сам у пакоі часта рабіў гімнастыку. Ён заўсёды меў моцныя рукі і калі дужаўся на рукі дык заўсёды выйграваў.

Раз да Колінага сябра па пакоі прыйшоў студэнт з Чачні, каб дапамагчы яму па рускай літаратуры. Чачэнец глянуў на чарнявага, смуглявага Колю і сказаў:

— Мусіць ты наш.

Калі Коля расказаў пра гэта, мы доўга смяяліся.

Калі ў 2009 годзе Коля абараніў магістратуру, вярнуўся ў родную Гайнаўку і слых пра яго прапаў. У 2014 годзе ў фірму, дзе я працаваў, прыязджаў шафёр з Гайнаўкі. Я запытаў у яго, ці ён ведае Колю.

— А хто яго не ведае! Яго ўся Гайнаўка ведае! Шчыры хлопец, гасцінны, і бабнік заўзяты!

Год назад я ў тэлефоннай кніжцы знайшоў прозвішча яго сям'і і пазваніў. Адазвалася яго маці:

— Зараз я паклічу Колю.

У цёплы ліпеньскі дзень дамовіліся на піва ў Беластоку. Расселіся ў беластоцкай сталовай і пытаю:

— Коля, а кнігі яшчэ чытаеш?

— Рэдка. Не маю на тое часу.

Коля адкрыў інтэрнэтную краму, прадае камп'ютарныя прылады. Бізнес слаба яму ідзе, таму што канкурэнцыя ў гэтым сектары вялікая

— Мо за мяжу выеду...

— Гуляеш, буяніш яшчэ?

— Рэдка. Няма з кім. Мае равеснікі павыязджалі з Гайнаўкі, засталіся малодшыя на 15 гадоў, а гэта ўжо не кампанія. Дарэчы, жыву з бацькамі ў адной кватэры дык і я пачаў цаніць спакой

— А тужыш па нашых часах?

— А як жа. Файна калісь было. Шкада, што разбурылі наш інтэрнат.

Сапраўды, зараз на месцы старога студэнцкага інтэрната на Кракаўскай стаіць новы блёк.

Успомнілі мы старыя добрыя часы, калі жылі ў інтэрнаце па вуліцы Кракаўскай, як тады было весела. А зараз нам ужо пад сорак. Эх, бяжыць той час! Коля неяк спакайнейшы стаў ды і я таксама.

— Старая гвардыя не ржавее, — Коля моцна пацiснуў мне руку і сеў у апошні гайнаўскі аўтобус.

Сумна неяк стала. А чаму я пішу пра Колю? Таму, што ён раскруціў нашу спакойную кампанію, унёс нам свой падляшскі каларыт. Не вернеш даўніх гадоў. Дарослае жыццё мае свае правы. А час бяжыць, бяжыць...

(бюк)

## Выстаўка „Гафт і карункі"

23 сакавіка гэтага года ў Гайнаўскім доме культуры адкрылі выстаўку пад загалоўкам „Гафт і карункі Гайнаўскага павета — 2018". Яна складаецца са шматлікіх прыгожых прац, між іншым, сурвэт і сурвэтак (іх было найбольш), макатак, фіранак, ікон, партрэтаў, абрусаў (настольнікаў), дываноў, вышываных кашуль і вышываных падушачак. Сярод трыццаці ўдзельнікаў конкурсу пераважную большасць складалі жанчыны, але было і трох мужчын з Гайнаўкі.

Арганізатар — ГДК — выдаў каляровы буклет экспанаваных прац. Змешчаны ў ім прозвішчы аўтараў прац, але невядома адкуль яны — хто з іх з Гайнаўкі, а хто з той ці іншай вёскі. Мне вядома, што з Нараўчанскай гміны свае працы даслалі шэсць жанчын (і ўсе яны пералічаны ў буклеце): Галіна Бірыцкая, Малгажата Краўчык і Людміла Зданоўская з вёскі Плянта, Марыя Каральчук і Іаланта Турасінская з Новай Лукі ды Вера Осяк з Падляўкова. Свае працы прывезла таксама Крыстына Грыгарук з Орлі Бельскай гміны (яна ўраджэнка вёскі Бярнацкі Мост Нараўчанскай гміны). Традыцыйна ўжо найбольш вышывальшчыц удзельнічала з горада Гайнаўкі — 21.

Сёлетнюю выстаўку мастацкага рукадзелля жыхароў Гайнаўшчыны можна глядзець у ГДК да 3 мая гэтага года. Дырэктар і інструктаркі ГДК запрашаюць.

## По гарачых слядах Закрылі краму раней вызначанага часу

Была субота 31 сакавіка гэтага года і прадуктовая крама ГС у Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета мела працаваць да 14-й гадзіны пасля абеду. Так было надрукавана на картцы, прыклеенай да дзвярэй магазіна. Я прыехаў на ровары а гадзіне 13.45 і дзверы крамы былі ўжо закрыты. Прадаўшчыца была ўсярэдзіне, яе ровар стаяў ля фасаднай сцяны крамы. Я крыху пачакаў перад будынкам. Думаў, што краму яшчэ адкрыюць.

Да крамы прыбягалі маладыя суседзі і тузалі за дзвярную клямку. Так яно ёсць, што хто жыве найбліжэй ад яе, той прыходзіць у апошнюю хвіліну. Як я заўважаю, на поезд вельмі часта спазняюцца тыя асобы, якія жывуць побач або блізка чыгуначнага вакзала.

І вось а гадзіне 13.50 дзверы адкрыла прадаўшчыца і сказала нам, каб ішлі сабе дадому — крама закрыта. Цяпер ёсць такі закон, што яна павінна выйсці з крамы дакладна а гадзіне 14-й. Зараз яна робіць падлік утарганых грошай. Мы, нядошлыя пакупнікі, як кажуць, засталіся на лёдзе. Пайшлі незадаволеныя дадому, бо без пакупак і што важна — без харчовых прадуктаў. А перад намі вольныя святочныя дні. Са Старога Ляўкова да бліжэйшай прадуктовай крамы ў Нараўцы што там — раптам 8 кіламетраў. Па дарозе ў Нараўку ёсць папраўдзе прадуктовая крама ў вёсцы Плянта, але яна ў суботу працуе ўсяго дзве гадзіны — ад 9-й да 11-й.

Мне цікава, хто тут „законны" — крама павінна працаваць да 14-й, а яе закрылі раней. На другі дзень мне сказалі знаёмыя, што 31 сакавіка г.г. краму ў Старым Ляўкове закрылі на паўгадзіны раней вызначанага часу і яшчэ гаворыць пра закон. Моў, хай ведаюць. Закон дык закон. Найлепш законам у пакупніка!

На адкрыццё крамы ляўкоўцам і не толькі ім прыйшлося чакаць да 3 красавіка — гэта ўжо пасля каталіцкіх велікодных святаў.

(яц)



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# У беларусаў таксама ёсць брэнды і маркі!

На ўроку беларускай мовы ў пятым «а» класе наладзілі тэатральныя рэпетыцыі. Настаўніца Людміла Сегень падабрала сучасны твор «Марка». Ён пра сусветныя брэнды, якія кожны дзень сустракаем у жыцці. Для маладых брэнды — натуральная з'ява. А вось для старэйшага пакалення замежныя назвы марак гучаць падазрона і наклікаюць свойскія асацыяцыі.

Для бабулі Марыі гарбата «Lipton» здаецца зёлкавай гарбаткай з ліпы, а касцюм ад «Armani» апранахай, пазычанай ад нейкага Армана. Згаданая Марыя Пятроўна жыве ў вёсцы. Яна прыязджае да гарадскіх сваякоў, чуе дзівосныя слоўцы і перарабляе іх на свой розум. Яна таксама хоча быць моднай. У гэтую вялікую і не простую ролю ўвасобілася Марыся Хаме. Падобны выклік падняў Адрыян Максымюк, які іграе ролю Бацькі, ён сын Марыі Пятроўнай і тата гарадской сямейкі. Яго жонка гэта сімпатычная спадарыня Святлана, якую іграе Марына Місяюк. У іх двух сыноў — Юра (Якуб Галёнка) і Мікіта (Матэвуш Бонда) і дачушка Алёна (Аня Іванюк).

У пастаноўцы важную ролю іграюць яшчэ Аня Пяткевіч і Антаніна Шэрэмэта, якія выводзяць мараль. А мараль такая — усё, што добрае і прыгожае, сустрэнем не толькі ў модных журналах і рэкламах. У беларусаў свае маркі, якія служаць людзям тысячы гадоў. Мы іх не заўсёды прыкмячаем, хаця яны побач нас. І галоўнае — яны заўсёды патрэбныя для старых і маладых!



Якія гэта беларускія брэнды і маркі? Сёння пра гэта яшчэ не скажам... А пра ўсё распавядуць вам нашы сябры з беластоцкай праваслаўнай школы на Тэатральным аглядзе ў 2019 годзе! Так, дакладна, праз год!

На поспех і ўзнагароды працуюць яны старанна і доўга.

Ды і не сам удзел у аглядзе галоўны. Часта з-за хвалявання губляем упэўненасць, забываем словы. Аднак тое, што адбываецца ў час рэпетыцый, застаецца з намі. Гэта час навукі і творчай радасці. Калі ідзе салідная падрыхтоўка, калі чуюцца пытанні і заўвагі, калі нехта на ляту прыдумвае штосьці ад сябе, а нехта ўпарта паўтарае вымаўленне — гэта навука, якая ніколі не пойдзе ў лес. Дзякуючы цікавым, дапрацаваным пастаноўкам, адчуем радасць ад творчай працы і сяброўства.

А праз тыдзень напішам пра сёлетні Тэатральны агляд і поспех нашых беластоцкіх сяброў.

**Зорка**

**Фота Ганны Кандрацюк**

Клаўдзія Ніканчук,
VI кл. ПШ у Нарве

## Вялікдзень

Надыходзіць Велікодны час.
Ён вельмі радуе нас.
Я люблю маляваць
і яйкі ва ўзоры «апранаць».
Прыстроіць вербы я люблю,
на Вербніцу ў царкву нясу.
Калі прыходзіць ужо той час,
пяку «бусліны лапы» якраз,
каб бусел гняздзечка ўвіў,
над нашай хаткай пакружыў!
У Велікодную суботу
ўсю закончым мы работу.
І вяселяцца ўсе ў нас –
Хрыстос Уваскрос!
На вечны час!

## УВАГА КОНКУРС! № 15-18

**На сметніцы, на макраце**
**Пякучая яна расце.**
**І хоць не горш за іншых кветак,**
**Вясны абуджанай прыкмета.**
**А дакранешся — апячэ.**
**К......**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 22 красавіка 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 11-2018: жаваранак. Узнагароды, наклейкі, выйгралі Габрыела Красько, Зузанна Мішчук з Арэшкава, Юстына Бакуменка з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, Аляксандра Харытановіч, Клаўдзія Пень, Габрыся Калішук з бельскай «тройкі». Віншуем!**

# Як у пятым «ц» вучні шукалі герояў-беларусаў!



Пяцікласнікі з настаўніцай Іаннай Васілюк – ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім

Чакаць, выглядаць свята — цяжкая праца. З вучнямі пятага «ц» класа, мы сустрэліся яшчэ перад 25 Сакавіком і Вялікаднем. Амаль усе нашы сябры думалі як прыдумаць і размаляваць герб «Пагоня», каб супадала з гістарычнымі рысамі і на свой спосаб атрымалася найпрыгажэйшай і арыгінальнай. Пяцікласнікі здзівіліся, што пад гербам «Пагоня», які тады быў намаляваны на шчытах, беларускія рыцары ваявалі пад Грунвальдам. Яны не ўмелі яшчэ адрозніць гістарычных і сучасных літвінаў і ўсё здавалася ім складаным. Таму ўдзел у школьным конкурсе «Пагоня» наклікала шмат пытанняў, роздумаў і новых думак...

У час сустрэчы мы гаварылі таксама пра конкурс «Мой герой — беларус». Спачатку вучні прыкідваліся абыякавымі да такой тэмы, але пасля, калі разам сталі асвятляць справу, актывізавалася Юля Ваўтанюк. Яна заявіла, што для яе любімым беларусам з'яўляецца яе прадзедка. Ён цікава ўмее размаўляць з маладымі, ведае як прыцягнуць іх увагу і цікавасць:

— А найбольш ён любіць распавядаць пра вайну, — кажа Юля.

Жывы расказ прадзеда цікавейшы за ўсе кніжкі, тым больш калі між апавядальнікам і слухачом існуе сямейная любоў і давер...

Велікодны, святочны перыяд звычайна праходзіць у родным, сямейным крузе. Ёсць непаўторная нагода, каб распытаць пра беларусаў у вашай сям'і. Сямейныя расказы маюць сваю цану — яны прасякнуты цеплынёй і зразуменнем. Іх прыемна слухаць і варта запісаць, каб прачыталі і паслухалі іншыя вучні, іх бацькі, дзяды і прадзеды, настаўнікі і чужыя людзі.

**Зорка,**
**фота ГК**

*Леанід Дайнека*

* * *

*А бог вясны прыходзіць босы,*
*З жалейкай звонкай у руках.*
*Лугі сінеюць, як нябёсы.*
*Сузор'і кветак на лугах.*
*Ручай, нібы дзіця, лапоча.*
*Бягуць на поўнач халады.*
*Па чорным полі гулка крочаць*
*Мільёнаногія дажджы.*
*Звяры і птушкі ў першым класе.*
*Штурмуюць сонца мурашы.*
*Спявае вецер. Пачалася*
*Веснафікацыя душы.*
*Як добра жыць у дзень вясенні,*
*Душой адтайваць пакрысе*
*І адчуваць сябе насеннем,*
*Што неўзабаве прарасце.*
*І скінуўшы з душы трывогу,*
*Паверыць сонцу і вадзе,*
*Знайсці адзіную дарогу,*
*Што ў край бацькоўскі прывядзе.*
*На небасхіле ўжо маячыць*
*Зеленакрылы ветразь дрэў.*
*О дрэвы родныя, я плачу*
*Ад радасці, што вас сустрэў.*
*Шумі, звіні, жывое вецце!*
*Паклон табе, турботны лёс,*
*За гэты міг, за гром, за вецер,*
*За вочы мокрыя ад слёз.*

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

## Кавун і прасцяк

Зайшоў чалавек у агарод, выразаў самы спелы кавун і хацеў яго з'есці. А той у жаху кажа:

— Што ты робіш? Ці не ведаеш што я...

— Ведаю, ты агародніна, звычайны кавун.

— Не, не, не! — рэзка запярэчыў кавун. — Я яйка, знесенае яркім сонцам!

— Цікава!

— Паслухай, добры чалавек: калі забярэш мяне і будзеш старанна даглядаць, каб я не лопнуў, я нараджу табе слоніка цаною ў тысячу дахеканаў.

Уцешыўся чалавек, занёс кавун дахаты і абыходзіўся з ім як з курыным яйкам. Толькі пасля, калі агародніна згніла, выкінуў яе на сметнік і зразумеў, што яго ашукалі.

Дзякуючы хітрыкам кавун не пайшоў пад нож!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## Польска-беларуская крыжаванка

### № 15-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 11-18:**

Клапан, вясна, нясмелы, мяснік, літарка, крок, рэ, візіт. Мука, вясло, ляснік, касміт, некалі, авал, арт, намер.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Аляксандра Томчук, Вікторыя Гаць, Клаўдзія Пятроўская, Алівія Троц, Марыся Сідарчук, Аня Мартыновіч, Оля Весялоўская** з бельскай «тройкі», **Наталля Ніканюк** з Арэшкава, **Аляксандра Лашэўская** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, **Аляксандра Каліноўская** з Нараўкі. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Jakub | Czapka | | Sad | Piknik | Sukces / Bursztyn | | | | |
| | | | Pięta | | | | | Róg | |
| Jednorożec | | | | | | | | | |
| | | Akt | | | | Parada | | Ach! | Ranga |
| Kowno / Węch | | | | | | Dar / Ala | | | |
| | | Gira | | | | | Jar | | |
| | Mak / Kłamca | | | | La | | | | |
| | | | | Próg | | | | | |

# З эпісталярнай спадчыны Уладзіміра Казберука

З беларускім літаратуразнаўцам, крытыкам, перакладчыкам Уладзімірам Казберуком (1923-2016) я шмат гадоў сябраваў, ліставаўся. Быў ён родам з вёскі Бандары, якая прытулілася да рэчкі Нарвы. З гэтай самай вёскі родам і Аляксандр Баршчэўскі (Алесь Барскі). Яны сябравалі. А да „Выбраных твораў" (Мінск 2011) Алеся Барскага Уладзімір Казбярук напісаў каментарый. А гэта самая складаная, уважлівая і грунтоўная справа. Уладзімір Казбярук добра ведаў творчасць свайго аднавяскоўца. Ды і не толькі аднавяскоўца, а ўсіх беларускіх літаратараў Польшчы. Ён іх любіў, паважаў, цаніў. Ён любіў да самай смерці і сваю Беласточчыну, сваю бацькоўскую зямлю.

У беларускай літаратуры Уладзімір Казбярук з'явіўся адным з грунтоўных даследчыкаў праблем беларускага рамантызму. Варта толькі прыгадаць па гэтай тэме кнігі Уладзіміра Казберука: „Традыцыі польскага рамантызму ў беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя" (Мінск 1972), „Рамантычны пошук: Назіранні над беларускім рамантызмам пачатку XX стагоддзя" (Мінск 1983). Па кнігах Уладзіміра Міхайлавіча да сённяшніх дзён настаўнікі-філолагі ў Беларусі вывучаюць творчасць Якуба Коласа. Гэта кнігі „Якуб Колас у школе" (Мінск 1967, 1975), „Паэма Якуба Коласа «Новая зямля»" (Мінск 1979), „Якуб Колас (жыццё і творчасць)" (Мінск 1962) і іншыя. Па творчасці Якуба Коласа да 1917 года Уладзімір Казбярук абараніў кандыдацкую дысертацыю.

Даследчык шмат пісаў пра польска-беларускія ўзаемаадносіны. Вынікам гэтага сталі яго працы „Традыцыі польскага рамантызму ў беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя" (Мінск 1972), „Славянскія літаратуры і праблемы беларускага параўнальнага літаратуразнаўства" (Мінск 1982) і іншыя.

Ліставанне са сваім старэйшым сябрам было не частае, але захаваліся ў маім хатнім архіве яго лісты. Амаль ва ўсіх іх Уладзімір Казбярук прыгадвае беларускую Беласточчыну. Давайце пачытаем іх разам, ды і не так часта наша „Ніва" друкуе эпісталярную спадчыну сваіх землякоў-беларусаў Беласточчыны.



Уладзімір Казбярук у апошнія гады свайго жыцця

## Лісты ад Уладзіміра Казберука

*4 сакавіка 2001 года*

**Шаноўны пане Сяргей!**

Спадзяюся, што Вы атрымалі мае фатаграфіі і што яны вернуцца да мяне, калі ўжо не будуць патрэбны. А для гэтага пісьма ў мяне з'явілася асаблівая нагода. Прачытаў у беластоцкай беларускай „Ніве" (17 снежня 2000 года) артыкул „Усе мы родзічы", дзе, у прыватнасці, вядзецца гаворка пра Філю. Калі б Вам трэба было, то я мог бы паведаміць яго сучасны адрас.

Лёс яго быў вельмі складаны і шмат яму давялося перажыць, перш чым ён апынуўся ў Краснадарскім краі. Успамінаў Янкі Жамойціна[1] ён чытаць не мог і не чуў пра іх. Яму бясспрэчна, цікава было б пазнаёміцца з імі.

Ці ёсць у Вас звесткі пра доктара Мікалая Марцінчыка[2]? Перад вайною ён жыў у Нараўцы (на поўнач ад Гайнаўкі). Па даручэнні Рыгора Шырмы[3] сюды да яго прыязджаў Максім Танк[4] па грошы на беларускія выданні. Пасля вайны ён жыў у Гародні. Калісьці Зоська Верас[5] паведамляла мне, што ў яе асабістым архіве зберагліся матэрыялы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю М. Марцінчыка. Думаю, што ён заслужыў, каб недзе добрым словам успомніць яго.

З прывітаннем і пажаданнямі поспехаў у 2001 і ў наступных гадах.

**Уладзімір Казбярук.**

* * *

*26 жніўня 2001 года*

**Шаноўны Сяргей Мікалаевіч!**

Я вінаваты перад Вамі, што так затрымаўся з адказам, і прашу прабачэння. Дзякую за паэтычны зборнік „Горад без цябе". Цяпер ужо побач са зборнікамі Івана Чыгрына[6] зойме сваё месца кніжка Сяргея Чыгрына. А каханне — невычэрпная крыніца натхнення. Вядома, у мае гады такога роду з'явы ўспрымаюцца як нешта бачанае здалёк. Божы дар у Вас ёсць, і Вам трэба працягваць творчыя пошукі.

Я вельмі шкадую, што Вам не ўдаецца знайсці звесткі пра аднаго чалавека і ўшанаваць яго памяць. У навучальным 1940-1941 годзе я быў вучнем 10 класа Свіслацкай сярэдняй школы, дзе перад самай вайною атрымаў атэстат сталасці. Вучань 9 класа гэтай школы Лейба Фарбер кіраваў струнным гуртком, які прымаў удзел у абласной алімпіядзе мастацкай самадзейнасці ў Беластоку. Там удзельнікаў алімпіяды, сярод якіх быў і я, 22 чэрвеня 1941 года застала вайна. Сам Фарбер іграў на мандаліне так, што мог зачараваць любога чалавека, нават і найбольш абыякавага да музыкі. За ўсё сваё жыццё такой ігры на мандаліне я не чуў — ні па радыё, ні ў канцэртных залах, ні ў грамафонных запісах. Калі б ён застаўся жывы, ён бы моцна праславіўся. Гэта пра яго Якуб Колас[7] пісаў:

Колькі талентаў звялося,  
Колькі іх і дзе ляжыць,  
Невядомых, не прызнаных,  
Не аплаканых нікім...  
Жадаю поспехаў ва ўсім.

**Уладзімір Казбярук, Мінск.**

* * *

*14 верасня 2003 года*

**Паважаны Сяргей Мікалаевіч!**

Шчыра дзякую за Вашы віншаванні, за цёплыя словы і за добрыя пажаданні. Атрымаўшы ліст, я яшчэ раз з прыемнасцю прачытаў Ваш зборнік „Горад без цябе". А цяпер буду чакаць звестак з „Нівы". Раней мне яе прысылалі рэгулярна. Але ўжо некалькі месяцаў я яе не бачыў. Калісьці шмат гадоў выпісваў яе, пакуль можна было.

Адрас Філі пакуль што прысласць не магу. Ён жыў адзін. У яго была вельмі складаная аперацыя, і ён перабраўся або да сына, або да дачкі.

Жадаю Вам найлепшых поспехаў у літаратурнай творчасці і ў жыцці.

**Уладзімір Казбярук.**

1 Янка Жамойцін (1922-2003) — беларускі пісьменнік-публіцыст, крытык, грамадскі дзеяч.

2 Мікалай Марцінчык (1901-1980) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч у былой Заходняй Беларусі, доктар, публіцыст.

3 Рыгор Шырма (1892-1978) — народны артыст Беларусі, фальклярыст, грамадскі і музычны дзеяч.

4 Максім Танк (1912-1995) — народны паэт Беларусі.

5 Зоська Верас (1892-1991) — беларуская пісьменніца і грамадская дзяячка.

6 Іван Чыгрын (1931-2006) — кандыдат філалагічных навук, літаратуразнавец, паэт.

7 Якуб Колас (1882-1956) — народны пісьменнік Беларусі.




■ Адна з кніг Уладзіміра Казберука

* * *

*3 кастрычніка 2003 года*

**Паважаны Сяргей Мікалаевіч!**

Шчыра дзякую за такі прыемны сюрпрыз. Я, безумоўна, з вялікім задавальненнем прачытаў Ваш матэрыял. Да „Роднага слова” (№ 8), „ЛіМа”, „Голасу Радзімы”, дзякуючы Вам, далучылася і беларуская „Ніва” з Беластока. Мне яшчэ шмат чаго можна было б і трэба было б зрабіць. Але невядома, што дам рады, бо са здароўем у мяне не ўсё ў парадку. Апошнімі днямі праходзіў сур’ёзныя абследаванні і працэдуры, і давялося мне адкладваць усе іншыя справы.

Кніжку пра Францішка Скарыну[8] высылаю. У ёй яшчэ раз даказваю тое, што даказваў у сваіх артыкулах: першадрукара звалі Францішкам (пісаў я пра гэта і ў часопісе „Крыніца”, № 9-10 у мінулым годзе). На працягу стагоддзяў форма „Францыск” не сустракалася ні разу ні ў якіх дакументах, ні ў якіх пісьмовых крыніцах. Наогул, у нашым літаратуразнаўстве і гістарычнай навуцы розных міфаў хапае. Адзін з іх — пытанне аб тым, хто ўсё ж такі ў даваенны час абараніў паэму Якуба Коласа „Новая зямля” ад злыдняў — я развенчваю ў рэцэнзіі „Кафедральны вянок памяці”, якая ад пачатку года знаходзіцца ў часопісе „Полымя” і пакуль што яшчэ невядома, калі пабачыць свет.

**З падзякай і павагай**
**Уладзімір Казбярук.**

* * *

*3 сакавіка 2007 года*

**Паважаны Сяргей Мікалаевіч!**

Атрымаў я Вашу кніжку „У пошуках слонімскіх скарбаў”. Шчыра дзякую. Прачытаў ужо з цікавасцю артыкулы пра Міколу Арочку[9] і Алега Лойку[10]. Даўно я ўжо Арочку не бачыў і зусім не ведаў, дзе ён і чым займаецца. Я патэлефанаваў Алегу Антонавічу і даведаўся, што ён у Слоніме. Я ў даўгу перад ім. Пяць гадоў таму назад ён мне падараваў „Кнігу лёсаў” і „Галгофу”. І ў мяне не было аказіі адгукнуцца на яе. Надарылася такая аказія, што я ўжо яе перачытаю зноў. Але спачатку прачытаю Вашу кнігу. Вельмі ж цікава было б, калі б знайшліся энтузіясты і ствaрылі такія ж кнігі пра свае мясцовасці, якія таго заслугоўваюць. Між іншым на Беласточчыне цяпер з’явіліся вельмі цікавыя публікацыі.

Жадаю Вам добрага здароўя і найлепшых поспехаў.

**Уладзімір Казбярук, Мінск.**

* * *

*16 кастрычніка 2008 года*

**Паважаны Сяргей Мікалаевіч!**

Атрымаў Ваш ліст і паспрабую адказаць на некаторыя пытанні.

**1.** „Выбраныя творы” З. Бядулі[11] з’явіліся ў папулярнай серыі „Беларускі кнігазбор” (калісьці я для гэтай серыі падрыхтаваў Алеся Гаруна[12] і прымаў удзел у падрыхтоўцы кнігі А. Ельскага[13]). Усе справы, звязаныя з публікацыяй кніг гэтай серыі, вырашае Кастусь Цвірка[14]. Між іншым у свой час пабачыў там свет зборнік „Беларускія пісьменнікі Польшчы”. Змітрок Бядуля заслужыў, каб яго творы перавыдаваліся, і калі мне прапанавалі падрыхтаваць гэты зборнік, то я не мог не згадзіцца.

**2.** Пра Чаржынскага[15] я сёння нічога новага не даў бы рады сказаць.

**3.** Справа юбілею Янкі Купалы[16] і Якуба Коласа. У свой час адзначаць 100-годдзе з дня нараджэння народных паэтаў я ездзіў у Польшчу. У гэтым годзе ўжо не прымаю ўдзелу ні ў якіх мерапрыемствах. Здароўе не дазваляе. Янка Купала і Якуб Колас ратавалі беларушчыну ад заняпаду, ад той смяротнай небяспекі, якая пагражала ёй з боку такіх дзеячаў, як Кнорын (Кнорыньш)[17] з кампаньёнамі. Пра творчасць народных паэтаў напісана шмат. Але сёння мы яшчэ, магчыма, недастаткова выразна паказалі тую ролю, якую яны і іх найбольш самаахвярныя сучаснікі (у тым ліку і дзеячы БНР) адыгралі ў пераўтварэнні Паўночна-Заходняга краю ў Беларусь, якая ўжо надзейна займае „свой пачэсны пасад між народамі”, пра неабходнасць чаго з такой надзеяй пісаў калісьці Янка Купала.

**4.** У чым усё ж загадкавасць Скарыны? Сёння нам трэба весці гутарку не пра нейкую загадкавасць беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара. Мы павінны больш удумліва спасцігаць тую эпоху наогул і паспрабаваць у сваіх пачуццях прайсці той надзвычай складаны і звілісты шлях, які давялося адолець яму.

**5.** Пра літаратуру Беласточчыны. Калі дам рады, то я яшчэ падрыхтую зборнік сваіх артыкулаў пра падзеі і літаратуру ХХ стагоддзя. І ў пачатку будуць змешчаны артыкулы, прысвечаныя Беласточчыне. А, наогул, беларуская літаратура Беласточчыны — з’ява фенаменальная. Працуюць там і пішуць толькі энтузіясты, небывала самаахвярныя і адданыя справе беларушчыны. Я ўпэўнены, што настане пара, калі іх заслугі і ўся дзейнасць будуць належным чынам ацэнены. Былі ў мяне калісьці кантакты з многімі літаратарамі. Сёння ж сітуацыя такая (і здароўе, і агульнае становішча), што колішнія канкрэтныя сувязі ў асноўным спыняюцца. Але ўсё ж такі не абарваліся сувязі з Алесем Барскім[18], з прафесарам Базылём Белаказовічам[19]. Віктар Бура[20] з Гайнаўкі прысылае мне цікавыя кніжкі. А, наогул, для плённых кантактаў патрэбна надзейнае здароўе...

Пасылаю Вам сваю кніжку „Нашы вытокі”, якая пабачыла свет у канцы мая 2007 года. Гэта — зборнік артыкулаў, якія публікаваліся ў свой час у перыядычных выданнях. Падрыхтаваць можна было б яшчэ пару зборнікаў. Але для гэтага патрэбна было б больш надзейнае здароўя. Заканчыў зборнік твораў Алеся Гаруна для „Школьнай бібліятэкі”. Павінен пабачыць свет. Зусім нядаўна з’явіўся другі том „Гісторыі беларускай літаратуры XI-XIX стагоддзяў, прысвечаны літаратуры XIX стагоддзя. Там ёсць і тры мае артыкулы. Ды яшчэ ў „Родным слове” быў мой матэрыял пра „Слова аб палку Ігаравым”.

Ці наведваеце Вы Жыровіцкі манастыр? Манахам там з’яўляецца Алег Бембель[21].

**З найлепшымі пажаданнямі**
**Уладзімір Казбярук.**

* * *

*27 кастрычніка 2008 года*

**Паважаны Сяргей Мікалаевіч!**

Я вам вельмі ўдзячны за кніжку „Беларуская Беласточчына”. З цікавасцю чытаю яе — праўда, раблю перапынкі, бо матэрыял у ёй вельмі разнастайны. Сваё інтэрв’ю я бачыў, але прызнаюся, што я паспеў зусім забыцца пра яго. Здымкаў Валошына[22], Дарашкевіча[23], Арла[24], Разумоўскай[25] і Хлябцэвіча[26] не маю.

Вы збіраецеся ў Беласток? А я там 5 гадоў вучыўся. Перад самай вайною паспеў закончыць гімназію імя Жыгімонта Аўгуста[27]. Савецкую дзесяцігодку скончыў перад самай вайною ў Свіслачы — у чэрвені 1941 года. Пасля заканчэння яе паехаў у абласны цэнтр Беласток на алімпіяду мастацкай самадзейнасці. Тут мяне застала вайна. Дадому — 50 кіламетраў — дабіраўся пехатою.

З Андраюком Серафімам[28] гаварыў. Абяцаў ён скантактавацца з Вамі.

Перасылаю інфармацыю, змешчаную ў польскай літаратурнай энцыклапедыі.

**З найлепшымі пажаданнямі**
**Уладзімір Казбярук.**

**P.S.** Трапіў да мяне зборнік вершаў „Зоры над Зальвянкай”, надрукаваны ў Слонімскай друкарні. З цікавасцю чытаю. Калі б надарылася аказія, то я прасіў бы перадаць ад мяне прывітанне Алегу Бембелю.

* * *

*19 студзеня 2009 года*

**Паважаны Сяргей Мікалаевіч!**

Дзякую Вам за навагоднія і святочныя віншаванні і пажаданні. Вам я шчыра жадаю новых поспехаў і здзяйсненняў. Мне прыемна было прачытаць інфармацыю пра кніжку, якая павінна з’явіцца ў Беластоку.

Звестак пра дзеячаў, якія Вы пералічваеце, у мяне пад рукою няма. Але я буду мець на ўвазе і паспрабую штонебудзь пашукаць. Праўда, здымкаў знайсці я не разлічваю.

Сёння я спадзяюся, што Вы яшчэ раз знойдзеце аказію добрым словам успамянуць Алега Лойку, які заняў пачэснае месца ў вашай кнізе „У пошуках слонімскіх скарбаў”. Вы з Алегам Антонавічам плённа супрацоўнічалі, памагалі яму ў падрыхтоўцы кніжак „Ушанаванне”, „Галгофа” — у іх я знаходжу і Ваша прозвішча. Сам Алег Антонавіч быў вельмі добразычлівым чалавекам і пакінуў пасля сябе добрую памяць.

Хачу адзначыць, што цікавай атрымалася кніжка Юры Весялкоўскага[29] „Дух часу” з Вашым уступным артыкулам. Там я і сваё прозвішча знайшоў.

**Жадаю новых і новых здзяйсненняў.**
**Уладзімір Казбярук.**

**Гэта невялікая колькасць лістоў Уладзіміра Казберука. Іх напісана было значна болей. Акрамя лістоў Уладзімір Міхайлавіч дасылаў мне свае кнігі з аўтографамі і фотаздымкі.**

**Прайшло ўжо два гады, як няма сярод нас шчырага беларуса, таленавітага літаратара і проста добрага чалавека. Гэтыя лісты няхай нагадаюць пра Уладзіміра Казберука землякам, якіх ён бясконца любіў.**

**Сяргей ЧЫГРЫН**

---

8 Францішак Скарына (1490-1551) — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, філосаф-гуманіст, пісьменнік, лекар, грамадскі дзеяч.

9 Мікола Арочка (1930-2013) — доктар філалагічных навук, пісьменнік.

10 Алег Лойка (1931-2008) — доктар філалагічных навук, прафесар, пісьменнік, педагог.

11 Змітрок Бядуля (1886-1941) — беларускі пісьменнік, перакладчык.

12 Алесь Гарун (1887-1920) -беларускі пісьменнік і палітычны дзеяч.

13 Аляксандр Ельскі (1834-1916) — беларускі гісторык, пісьменнік, перакладчык.

14 Кастусь Цвірка (1934) — беларускі пісьменнік, перакладчык, выдавец.

15 Уладзіслаў Чаржынскі (1897-1974) — беларускі літаратуразнавец, крытык, перакладчык.

16 Янка Купала (1882-1942) — народны пісьменнік Беларусі.

17 Вільгельм Кнорын (1890-1938) — савецкі грамадска-палітычны дзеяч.

18 Алесь Барскі (нар. 1930) — доктар філалагічных навук, пісьменнік.

19 Базыль Белаказовіч (1932-2010) — польскі і беларускі вучоны-славіст, літаратар.

20 Віктар Бура — беларускі грамадска-культурны дзеяч на Беласточчыне.

21 Алег Бембель (нар. 1939) — беларускі паэт, грамадска-царкоўны дзеяч, публіцыст.

22 Павел Валошын (1891-1937) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст.

23 Янук Дарашкевіч (1890-1943) — беларускі паэт, грамадска-культурны дзеяч, вайсковец.

24 М. Арол (Пятэльскі, 1890-1918) — беларускі пісьменні, публіцыст.

25 Любоў Разумоўская (1897-1969) — доктар гістарычных навук, перакладчыца.

26 Яўген Хлябцэвіч (1884-1953) — беларускі бібліёграф, бібліятэказнавец, літаратуразнавец.

27 Жыгімонт Аўгуст (1520-1572) — вялікі князь літоўскі і кароль польскі.

28 Серафім Андраюк (нар. 1933) — беларускі літаратуразнавец, крытык.

29 Юры Весялкоўскі (нар. 1924) — беларускі грамадска-палітычны і рэлігійны дзеяч.

# На рэабілітацыйным аддзяленні (17)

Пятніца, 1 верасня. Апошні дзень заняткаў і практыкаванняў на рэабілітацыйным аддзяленні ў белавежскім «Ракітніку». Пасля ўчарашняй развітальнай сустрэчы пры кастры на снеданне зайшла адно Бажэна. Івоны не было.

— Што з Івонаю? — пытаю сяброўку.

— Адпачывае па імпрэзе, — сказала Бажэна, і тут жа прыбавіла: — Яна снедання ў пятніцу не спажывае. Папівае толькі каву, гарбату ды вадзічку...

— Штосьці не здаровіцца?

— Не, усё нармальна. Такая ўжо ейная звычка.

— Учора абяцала, што раскажа аб падарожжах, — напамінаю сяброўцы.

— Калі абяцала, дык стрымае слова.

Пасля снедання я падаўся ў кабінет фізіятэрапіі на заняткі. Зрабілі лазернае абпраменьванне пазваночніка і левай ступні. Развітваюся з тэрапеўтамі — Петрусём Харкевічам і Магдай Сікорскай. Сумна неяк стала. Усё ж такі зжыліся за два тыдні.

У сталовай не прыкмеціў я сяброўак са Шлёнска. Затым абед спажывалі мы ў мужчынскай кампаніі — Мірэк, Лёнік і я. Пасля абеду зайшла развітацца Марыя Янчук з Барысаўкі — сімпатычная жанчына, сардэчная сяброўка.

— Усяго добрага жадаю Вам, Марыя. Не ўспамінайце ліха. А здымкі і «Ніву» з тэкстам Вам пры нагодзе падкіну. Затым да чарговай сустрэчы... у Белавежы, — кідаю на развітанне, пацікаючы руку сяброўкі.

Ліфтам спускаюся ўніз на лекарскае абследаванне. Размова з артапедам Багуславам Скепкам. Знаёмства наша доўжыцца ад дзесяці гадоў. Пазнаёміліся ў Гайнаўскім шпіталі на рэабілітацыйным аддзяленні. Апошнія парады.

— Пухліна і боль мышцаў ног, — гаворыць артапед, — гэта не загана апухласці вялікага пальца нагі, а пазваночніка. Ад вялікага пальца можа пухнуць адно ступня. А наконт аперацыі сцягна ў вашым выпадку скажу такое, — канстатуе сябра, — рызыкоўная справа. Трэба добрага спецыяліста, каб хірургічная аперацыя закончылася паспяхова. Адзіны выхад гэта падвешаны пратэз.

Вячэра: тры бутэрброды з каўбасой з кумпяка, бульбяная бабка з салодкай падліўкай, ёгурт з трускалак, вялікі яблык. Без сябровак са Шлёнска. Івона з Бажэнай завіталі да мяне пасля вячэры. Я адпачываў на канапе. Запрасіў госцей прысесці. Памясціліся абедзве на шырокім фатэлі насупраць канапы.

— Дык, што вас цікавіць? — з усмешкай запытала Івона.

— Раскажыце пра Вашы падляшскія экскурсіі, што звездалі, вашы ўражанні, рэфлексіі.

— Пра Беларусь і белавежскае наваколле, са збіраннем грыбоў, разумееца, — пачала сімпатычная бландзінка, — я ўчора расказвала. Пра апошняе напомню ў скарачэнні. Падам адно мясцовасці, дзе пабывалі, бо на падрабязнасці часу нам не стане. Надта многа ўсяго накапілася. А з дому падаліся шляхам храмаў розных рэлігій: каталіцкай, праваслаўнай і мусульманскай.

Але аб гэтым ужо ў наступным допісе

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК

# Велікодны ўспамін

Урэшце пачалася сапраўдная вясна. У сераду, 4 красавіка, надвор'е падарыла цудоўны сонечны дзень. У мяне градуснік паказваў 20 градусаў цяпла ў цяні. На бліжэйшыя дні сінаптыкі прадбачваюць такое ж надвор'е, з пераменным дажджом і веснавымі навальніцамі. Ажывае прырода пасля зімовай дрымоты. Разам з тым ажываюць і ўспаміны. Прыпамінаюцца мне пяцідзясятыя гады і Пасха на калёніі Петухоўка ў Паплаўскіх.

Пасля вайны мы ладзілі сардэчныя адносіны з Дзмітрыем Паплаўскім з Петухоўкі, Сямёнам Кацянкам ды Валодзькай Міхалюком з Гароднік. Гэта сябры бацькі па нядолі, якіх з'яднала нямецкае турэмнае зняволенне ў Бельску на Галавескай. З Паплаўскімі зжыліся быццам родныя. Гасцявалі мы адны ў другіх на перамен. У 1955 годзе я вучыўся ў тэхнікуме сельскагаспадарчага рахункаводства. На Пасху ранішнім цягніком адправіліся мы з бацькам і матуляй у Бельск-Падляшскі. У Гародніках праз Відава будзе кіламетраў сем або восем. Да Паплаўскіх на калёнію яшчэ кіламетры два з лішнім. Таму выслалі за намі фурманку на станцыю. Стаяла цёплае сонечнае надвор'е. Падарожжа доўжылася каля гадзіны часу па не найлепшай якасці дарозе ды на „драбіністай" фурманцы. Сустрэў нас гаспадар Дзмітры з жонкаю Вольгай. У іх было чацвёра дзяцей: трох хлопцаў ды дзяўчынка.

працяг ☞ 11

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# http://msbd.histmuseum.by

Сучаснай беларускай дзяржаўнасці яшчэ няма і трыццаці гадоў. Разам з тым у Мінску ўжо існуе яе музей. Згодна яго сайту, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://msbd.histmuseum.by**, экспазіцыя для наведвальнікаў была адчынена ў жніўні 2012 года. Дадзены музей не ёсць нейкім добра вядомым як для жыхароў Беларусі, так і для замежных турыстаў аб'ектам, таму туды зазірне далёка не кожны госць. Але магчыма, пазнаёміўшыся з музеем віртуальна, нехта з чытачоў „Нівы" пажадае зазірнуць у яго, калі выпадзе прыехаць у беларускую сталіцу.

Сайт Музея сучаснай беларускай дзяржаўнасці, які з'яўляецца структурай Нацыянальнага гістарычнага музея, выглядае даволі прывабна. На галоўнай старонцы распавядаецца, што ён адзін з наймаладзейшых і найтэхналагічных музеяў краіны, а яго экспазіцыя ахоплівае перыяд сучаснай гісторыі Рэспублікі Беларусь і прысвечана яе палітычнаму, эканамічнаму, навуковаму, культурнаму і спартыўнаму жыццю. Збор музея складае каля 4 тысяч адзінак захоўвання, 800 з якіх прадстаўлены ў экспазіцыі.

Там жа на галоўнай старонцы падаюцца гадзіны, калі музей чынны, распавядаецца пра сталую экспазіцыю, умовы наведвання. У левым ніжнім вугле знаходзяцца „апошнія навіны". Паколькі апошняя навіна датуецца студзенем 2017 года, то неяк зусім не верыцца, што за год не адбылося нічога такога, што было б цікава адміністрацыі музея. Аднак, зайшоўшы ў рубрыку „Навіны", мы ўбачым, што гэта сапраўды так. Зразумела, сайт музея гэта не сайт інфармацыйнага агенцтва, і абнаўленне навін штодзень ад яго ніхто не чакае, але калі за год на сайце не з'явілася ніводнае новае паведамленне, то гэта сведчыць аб не вельмі дбайным стаўленні да свайго віртуальнага прадстаўніцтва з боку адміністрацыі.

Адным з цікавых навінных паведамленняў з'яўляецца адказ адміністрацыі музея на крытычныя заўвагі з боку аднаго з каналаў дзяржаўнага беларускага тэлебачання. Мала таго, што праўладныя музейшчыкі пакрыўдзіліся на крытыку, так яшчэ і паабяцалі падаць у суд за зняваргу, калі не будзе прабачэння. Уласна адказ смеху варты, але яго з'яўленне і пагрозы судом сведчаць аб тым, як успрымаюць крытыку беларускія чыноўнікі, многія з якіх да таго ж не надта дасведчаны ў юрыдычных пытаннях і нават блытаюцца ў датах. Паколькі нідзе ў інтэрнэце не ўдалося знайсці запатрабаваных прабачэнняў, то, відаць, яны і не прагучалі. Пра суд музея сучаснай беларускай дзяржаўнасці і тэлебачання таксама інфармацыі нідзе няма.

На жаль, падстаў для крытыкі музей дае дастаткова. Так, у рубрыцы „Выставы і мерапрыемствы" апошнім тэкстам з'яўляецца расповед пра выставу аб мемарызацыі Вялікай Айчыннай вайны ў беларускім грамадстве. Усё было б добра, але выстава, як пішацца на сайце, „працягнецца" да 29 мая 2015 года. Калі ўладальнікі сайта надалей захаваюць такі падыход да яго абнаўлення, то колькасць тых, хто можа зацікавіцца музеем, можна будзе пералічыць па пальцах.

Яшчэ сумней стане нават віртуальнаму наведвальніку, калі ён зазірне ў падрубрыку „Апошнія набыткі" рубрыкі „Калекцыі". Яна ўвогуле пустая. Такая акалічнасць прымушае засумнявацца ў праўдзівасці слоў аб тым, што музей сучаснай беларускай дзяржаўнасці самы тэхналагічны. Судзячы па яго сайце, ён не патрэбен нават тым, хто ў ім працуе.

Аляксандр ЯКІМЮК

ДАТА З КАЛЕНДАРА

ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА

Падзеі і асобы БНР

## 125 гадоў з дня нараджэння Міколы Шчаглова-Куліковіча

У красавіку споўнілася 125 гадоў з дня нараджэння Міколы Шчаглова-Куліковіча. Кампазітар і адмысловец музыкі, сучаснік БНР, нарадзіўся 4 красавіка 1893 г. на этнічна беларускай Смаленшчыне. На жаль, дакладны год яго нараджэння невядомы — у розных крыніцах фігуруюць і 13 кастрычніка 1896 г. і 1897 г., але найбольш верагодным з'яўляецца 1893 г.

Паходзіў Шчаглоў з праваслаўнай сям'і. Род бацькі быў з донскіх казакоў, род маці паходзіў са Смаленшчыны. Хлопчыкам Куліковіч рана застаўся сіратой, часта гасцяваў у цёткі, што была ігуменняй жаночага манастыра ў Цвяры. Там ён пачаў спяваць у царкоўным хоры, яго хутка заўважылі выкладчыкі Маскоўскай сінадальнай музычнай вучэльні, што шукалі ў правінцыі здольных музыкаў. Шчаглоў скончыў гэтую вучэльню. Вялікі ўплыў на яго фармаванне зрабіў вядомы рэфарматар царкоўнай музыкі Аляксандр Кастальскі. Пасля Шчаглоў скончыў Маскоўскую кансерваторыю, паралельна гастраляваў па Еўропе, потым працаваў ва Украіне і на Смаленшчыне. У родных землях збіраў фальклор.

У 1936 г. прыехаў у Мінск. Там стаў адным з арганізатараў Опернага і балетнага тэатра, быў дырыжорам яго сімфанічнага аркестра. Паралельна працаваў рэдактарам на беларускім радыё. Цікава, што ў 1940 г. да дэкады беларускага мастацтва ў Маскве Шчаглоў адмыслова напісаў кантату „Сталін". Але тое, што адбывалася навокал, ніяк не адпавядала яго светаўспрыманню.

Да пачатку Другой сусветнай вайны Шчаглоў меў ужо досыць вялікі аўтарытэт і шырокую вядомасць. Калі прыйшла нямецкая акупацыя, ён застаўся ў Беларусі і працягваў сваю музычную працу. У 1944 г. узначаліў музычны аддзел Беларускага культурнага згуртавання. На лібрэта Наталлі Арсенневай напісаў некалькі опер: лірычна-рамантычную „Лясное возера", гістарычную „Усяслаў Чарадзей", „Кацярына", а таксама аперэту „У вырай". Паводле музыкі Шчаглова ў Мінскім драматычным тэатры быў пастаўлены спектакль „Затонуты звон" паводле п'есы Герхарда Гаўптмана і рыхтаваўся „Кастусь Каліноўскі" Яўсцігнея Міровіча, які аднак забараніла нямецкая цэнзура. У 1943 г. выдаў „Зборнік купальскіх і жніўных беларускіх песньяў". Супрацоўнічаў з беларускімі выданнямі „Новы шлях" і „Беларуская газэта". У 1944 г. удзельнічаў у Другім Усебеларускім кангрэсе.

Мікола Шчаглоў з'ехаў на Захад пры наступе савецкага войска, узяў там сабе прозвішча Куліковіч. Нейкі час знаходзіўся ў Нямеччыне ў лагеры для перамешчаных асоб. У эміграцыі ён таксама працягваў служыць сваёй музе. У 1946 г. арганізаваў вандроўны беларускі тэатр эстрады, які аб'ехаў з канцэртамі ўсю Заходнюю Нямеччыну. У гэты час ён стварае сакральную музыку. Жывучы з 1950 года стала ў ЗША, ён выдаў „Беларускія песенныя зборнікі" (тры выпускі), зборнікі „Калядоўшчыкі" і „Родныя матывы" з апрацоўкамі народных спеваў і ўласнымі песнямі, у ліку якіх „Беларусь, наша Маці-Краіна" і „У гушчарах" на вершы Наталлі Арсенневай, Максіма Багдановіча („Пагоня"), Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі, Янкі Купалы. Напісаў некалькі тэарэтычных прац, пакінуў мемуары „Мае ўспаміны". Цягам 12 гадоў кіраваў царкоўным хорам.

Памёр Мікола Шчаглоў-Куліковіч 31 сакавіка 1969 года ў амерыканскім Чыкага. Ягоны асабісты архіў быў перавезены і захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лондане.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

10 ☞ працяг

Самым старэйшым быў Федзя, затым Алёша, Сярожа і Валя. Паколькі дарослыя сядалі за святочны стол, я гуляў з хлопцамі. Наймалодшая Валя заставалася збоку. Запамяталася мне надта смешнае здарэнне. Цётка Вольга прынесла мужыкам на закуску рэшата сырых яек. Я прыглядаўся як Паплаўскі з бацькам рабілі з аднаго боку яйка дзірку і высмоктвалі сыры змест.

— Я такога цуда не бачыў, — кажу хлопцам. — Як яны могуць спажываць сырыя яйкі?

— Я цябе навучу, — адазваўся Аляксей з усмешкай і прынёс з рэшата белае яйка. — А робіцца гэта так, — і ўзяўшы ў два пальцы правай рукі яйка, трэснуў чубкам у мой лоб.

Яйка разлілося па маіх грудзях і запляміла касцюм. Пачалася калатнеча. Цётка Вольга халоднай вадою змывала мой святочны касцюм. Найбольш раззлаваўся дзядзька Міцька. Мацюгаўся на Аляксея. Думаў я, што грымне сыну ў чэрап, але наша матуля супакоіла расхваляванага дзядзьку. Касцюм цётка абчысціла ды прасушыла. Усё стала ў норму. Гасцяванне прадоўжылася да вечара і мы засталіся начаваць.

На другі дзень пасля снедання падаліся мы ў Гародніκі наведаць Міхалюкоў. У дзядзькі Валодзі было трое дзетак — Веніямін і Зіна з Верай. Я вельмі ўпадабаў новых кампаньёнаў. З таго часу стаў заўсёднікам у Міхалюкоў. Кожную суботу пасля ўрокаў пехатою падаваўся ў Гароднікі і заставаўся там на начлег. Раніцай адпраўляўся ў школу.

У дзядзькі Сямёна Кацянкі быў адзіны сын Валодзя. Пры кожнай нагодзе я іх таксама наведваў. А ў 1956 годзе гуляў я на Валодзевым вяселлі, быў дружбай маладога. Ажаніўся ён з дзяўчынай са Слівава, што каля Клейнік. Прыемнае і пышнае было вяселле. Але гэта ўжо іншая гісторыя.

Адно магу сказаць: ад велікоднага святкавання ў Паплаўскіх я навучыўся спажываць сырыя яйкі.

❖ **Уладзімір СІДАРУК**

# Прафілактыка і рашанне алкагольных праблем

На сесіі арлянскай Гміннай рады 1 лютага 2018 года радныя прынялі пісьмовыя справаздачы з працы Гміннай камісіі па справах алкагольных праблем ды аб рэалізацыі Гміннай праграмы супрацьдзеяння наркаманіі.

Алкаголь традыцыйна неабходны на вяселлях, хрысцінах, імянінах, юбілеях і ў прынцыпе таксама на памінках, хаця тут бываюць выключэнні. Пэўная група людзей па гарадах і вёсках спажывае алкаголь штодзень і без асаблівай прычыны.

Алкаголь часта называюць развесяляльным напіткам, але ў даўжэйшай перспектыве прыносіць турботы і бывае прычынай заўчаснай смерці.

У Арлянскай гміне алкагольныя праблемы з гадамі амаль не змяняюцца. На вуліцах Орлі падхмеленых асоб амаль не відаць. Чатыры гады таму была закрыта гэсаўская гаспода побач адпачынковага парку ў цэнтры мястэчка. Зараз невялікае кола любіцеляў гэтых напояў у спрыяльнае надвор'е збіраецца ў „агародчыку пад хмаркай" каля адной недалёкай крамы, а іншыя ў прыватным бары на акраінах Орлі. Маштаб з'явы паказваюць статыстыкі паліцыі і Камісіі па справах алкагольных праблем.

У Камісію ў 2017 годзе паступіла трынаццаць (у 2016 годзе чатырнаццаць, у 2010 годзе дзевяць) пісьмовых заявак у справе скіравання на прымусовае лячэнне злоўжываючых алкаголем асоб і ўсчынаючых хатнія авантуры: чатыры заяўкі ад сем'яў (у 2016 годзе дзевяць) і дзевяць ад паліцыі (у 2016 — пяць).

У выніку разгляду Камісія накіравала шэсць заявак (у 2016 г. пяць) у суд дзеля судовага рашэння пра прымусовае лячэнне ад алкагалізму. Чатыры асобы дабравольна рашылі адрачыся ад злоўжывання алкаголем і ўсчынання хатніх авантур. Адна асоба памерла зараз пасля паступлення заяўкі ў Камісію. Справы дзвюх асоб разглядаюцца Камісіяй.

Прафілактычная дзейнасць інфармацыйнага і адукацыйнага характару:

— Камісія распаўсюджвала інфармацыйныя матэрыялы для бацькоў, настаўнікаў і вучняў „Як берагчы дзіця ад алкаголю і нікаціну". На класных сходах з бацькамі прадстаўляліся лістоўкі на тэму цвярозасці вадзіцеляў і пагроз ад піцця алкаголю цяжарнымі жанчынамі;

— Камісія сфінансавала тэатральны спектакль, а таксама нізку адукацыйных фільмаў па прафілактыцы залежнасцей запар са сцэнарыямі заняткаў з моладдзю. Кошт матэрыялаў 789 зл.;

— за сродкі Камісіі сфінансавана была пакупка ўзнагарод для лаўрэатаў школьных конкурсаў прапагандуючых здаровы лад жыцця на квоту 387 зл.;

— 1 лютага 2017 года Камісія зладзіла „Гмінную ёлку" для дзяцей з сем'яў, якія ў матэрыяльных і алкагольных клопатах. Удзельнічала ў ёй сорак дзяцей і пятнаццаць бацькоў з тэрыторыі гміны. Кошт мерапрыемства, у тым ліку спектакль і падарункі з ласункамі і сувенірамі для дзяцей ад чатырох да дванаццаці гадоў склаў 3308,24 зл.

Падмога дзеля рашання алкагольных праблем:

— квотай амаль дзвюх з чвэрцяй тысяч злотаў было дафінансавана рэкрэацыйнае мерапрыемства пад адкрытым небам з нагоды Дня дзіцяці;

— Камісія дафінансавала паездку дзяцей у тэатр, пленэрныя імпрэзы і фатаграфічныя майстар-класы квотай за 1370 злотаў; мерапрыемства наладзіў арлянскі Гмінны асяродак культуры;

— за сродкі Камісіі была сфінансавана пакупка мабільнага камп'ютара за дзве з паловай тысячы для патрэб заняткаў з дзецьмі;

— квотай 3600 злотаў была сфінансавана летняя паездка дзевяці вучняў арлянскай школы на канікулы ў Элк;

— квотай 6000 злотаў Камісія дафінансавала летнюю паездку дванаццаці дзяцей у Гладышова, сарганізаваную арлянскім Брацтвам праваслаўнай моладзі.

У 2017 годзе не было ніводнай скаргі на дзейнасць гандлюючых алкаголем суб'ектаў. На рэалізацыю задач Камісія запланавала 41 тысячу злотаў з аплат ад продажу алкаголю, а расходавала менш трыццаці тысяч.

На прафілактычныя дзеянні супраць наркаманіі Камісія расходавала ў мінулым годзе тысячу злотаў.

На згаданай сесіі радныя прынялі Гмінную праграму прафілактыкі і рашання алкагольных праблем Арлянскай гміны на 2018 год.

❖ **Міхал МІНЦЭВІЧ**

# 18.04 — 24.04

**(22.03. — 20.04.)** Новыя творчыя задумы, смелыя планы. Добры настрой. Нойдуць на цябе вельмі трапныя, нават геніяльныя задумы. У пастаянных парах без падзенняў, але і нейкіх узлётаў; крызіс вам не пагражае. Дома зваляцца на цябе абавязкі, але ж ты вядомы тым, што справішся. Калі нудзішся на працы, можаш спрабаваць перайсці да канкурэнцыі (да 20.04.). Да 23.04. дна ў кашальку не пабачыш! Руш на ровар ці на бегі, але не перанапружвайся.

**(21.04. — 21.05.)** Пакуль найбольш займайся сабой і сваімі справамі. Добра з працамі фізічнымі і патрабуючымі засяроджанасці і цярплівасці. Самотныя Быкі будуць вельмі вабныя і схільныя да фліртаў. Варта прызнацца ў сваіх пачуццях. Спрэчкі за спадчыну могуць набрыняць каля 18.04., бо ніхто не схоча ўступіць. Але ці варта выдзіраць адзін аднаму адну залатоўку? Прыхільныя для цябе будуць суды і іншыя ўстановы. 15-19.04. спадзявайся наезду новых кліентаў. Можаш змяніць свой імідж.

**(22.05. — 22.06.)** 15-17.04. удала аформіш старыя, адкладзеныя справы. 16-22.04. абяцаюцца табе шматлікія атракцыёны і сюрпрызы. Але да 23.04. лепш будзь памяркоўным у паказванні сваіх пачуццяў і эмоцый. Лепш не адказвай на зачэпкі. На працы могуць вылезці нейкія прыхаваныя хібы і памылкі, хаця можа не будзеш за іх адказны, табе прыйдзецца іх паладзіць. Цяпер яшчэ разлічвай на свае ашчаднасці. Дбай аб свой пазваночнік.

**(23.06. — 23.07.)** Будзеш адважны і папулярны ў асоб іншага полу. У інтарэсах таксама без цяжкасцей даб'ешся свайго. Рух у інтарэсах і большыя грошы. У пастаянных парах ажыўленне. Нават калі маеш рукі поўныя работы, знайдзі час на забаву. З 20.04. паявяцца карысныя прапановы, а хуткія рашэнні будуць трапныя. На працу хадзі пешшу ці ездзі на веласіпедзе.

**(24.07. — 23.08.)** Інвестуй у сваю асобу. На працы будзеш супернегацыятарам. Аператыўнасць і рэфлекс. 16-20.04. пацікаўся навінкамі — яны табе прыдадуцца ў далейшай кар'еры! Інвестуй у праграмы, абучэнні — усё табе вернецца двойчы! Але 14-18.04. магчымая фінансавая рызыка, яна абернецца выгадай, але пасля таго не паўтарай гэтага прыёму!

**(24.08. — 23.09.)** Не паддавайся няўдачам і праблемам, ёсць рэчы, за якія варта ўпарта пазмагацца. Можа прыйсці новае каханне. Выкарыстай усе шанцы ў гэтым плане. У сям'і і сярод сяброў будзь сабой, не ўваходзь у дыскусіі, бо так цябе закруцяць, што зробіш усё, што яны захочуць. На працы ў другой палове месяца адкрыюцца перад табой новыя шанцы, паправіцца таксама тваё здароўе. Свае веды пашырай на кожным кроку.

**(24.09. — 23.10.)** 15-18.04. не ідзі з нікім у заклад, бо хутчэй прайграеш. Старайся не быць легкадумным і лішне бескампрамісным. У пастаянных парах магчымыя напружанні, але лепш пра іх і не думаць. Пашырацца кантакты. Купляй машыну пасля 16.04. Варта інвеставаць у вывучванне моў ці іншыя курсы; павышэнне кваліфікацый прыдасца ў пошуках працы. Еж больш гародніны і садавіны, закладзі начны замок на лядоўню.

**(24.10. — 22.11.)** Будзеш дзейнічаць на самых розных палях. Будзеш талковы, засяроджаны і самаўпэўнены. Зялёнае святло для шукаючых кахання! З 20.04. не будзе нудна ў пасцелі, што б там не рабіў. Тваё гняздзечка будзе больш камфортным. Справішся нават з рамонтам! Еж калярова, але без белага (соль, цукар, мука).

**(23.11. — 22.12.)** 15-17.04. можа памножыцца твая маёмасць, але не будзь лішне прагны. 14-18.04. вельмі пільнуйся перад сваімі ворагамі або небяспекай. Забяспечся ў прафесіі на выпадак рызыкі. З 20.04. будзеш баявіты, моцны, дабівайся свайго! Але раманы наладжаныя цяпер не будуць мець будучыні. Міне маразм у кампаніі. Не адкладвай нічога на працы, бо ў наступным тыдні прыйдзецца рабіць усё ў апошнюю хвіліну. Інвестуй у сябе, здабывай новыя ўмеласці, разгледзься ў навінках. Шпацыруй.

**(23.12. — 20.01.)** 15-17.04. можаш пазнаёміцца з кімсьці, хто падтрымае тваю кар'еру. 15-19.04. змагайся за сваё сярод радні; сваякі гэта зразумеюць. Прыліў сілы, радасць і ахвота да дзеянняў. Ты як магніт на прадстаўнікоў іншага полу! Добрая форма. Паявяцца першыя эфекты тваіх прафесійных старанняў. Вялікае ажыўленне і рух у інтарэсах.

**(21.01. — 19.02.)** Адобрыш надыходзячыя змены і перастанеш ускладняць сваё жыццё. 16-20.04. можа наступіць тваё азарэнне і нават прабліскі генію! Але 15-18.04. можа крыху апаражніцца твой кашалёк... А ў пару можа закрасціся зайздрасць. Не падыходзь лёгка да асцярог і небяспекі. Магчымыя спрэчкі. Лёгка ў галаву зойдуць іншыя мовы. Не найлепшы час для пахудзення.

**(20.02. — 21.03.)** 15-17.04. можаш нечакана нават для сябе стаць правадыром. Спрыяе табе большасць зорак. Будуць карысныя выпадкі. Новыя знаёмствы і раманы. Знайдзі хвіліну для сяброў. Асаблівыя поспехі ў Рыб з другой дэкады. Вучыся, інвестуй, напрыклад, купляй адпаведныя прылады. Пільнуйся на слізкіх і мокрых паверхнях. Лепш ідзі ў пасцель нават пры насмарку!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | 16 | 17 | 18 | | 19 | 20 | 21 |
| | 22 | 23 | 24 | | 25 | 26 | 27 | 28 |

1. правая або левая частка цела = 8 _ 26 _ 7 _;
2. прыстасаванне з пласцінак для абмахвання ў духату = 5 _ 6 _ 9 _ 12 _;
3. злучае аглоблі з хамутом = 11 _ 13 _ 14 _ 15 _;
4. верхняя частка твару чалавека ў... аглоблях = 3 _ 18 _ 22 _;
5. рэшткі неўмацаванага паселішча = 25 _ 23 _ 27 _ 28 _ 16 _ 1 _ 2 _;
6. частка шкілета чалавека, якая апіраецца на ніжнія канечнасці і з'яўляецца апорай для пазваночніка = 17 _ 4 _ 10 _;
7. скарэйшая за хаду = 19 _ 24 _ 20 _ 21 _.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 12 нумара**

Растоў, Палтава, тэлебачанне, ханты, Іўе, хор, ганчар, до, брага, Шклоў, цень, метал, печ, хна, навой, Брэжнеў.

Рашэнне: **Хто ліхога не бачыў, той добрага шанаваць не ўмее**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Убачыць Корсіку — і жыць далей

У наш час, калі адкрыліся магчымасці вандраваць па ўсёй зямлі, з'явілася многа твораў пра далёкія краіны. Аўтабіяграфічная кніга беларускага пісьменніка з Беласточчыны Віктара Стахвюка „Пакуль змеркне дзень” не губляецца ў гэтым шэрагу. У яе ўвайшлі дзве аповесці: „Мая Камчатка” і „Корсіка”. Пра апошнюю і пойдзе размова. Твор вызначаецца навізной тэматыкі, адметнасцю вобразу героя, які выконвае наратыўную функцыю, натуры актыўнай, дзейснай, авантурнай. У лепшым значэнні гэтага слова. Бо апантаны прагай пазнання новага, далёкага. Асабліва вабіць яго водная, марская стыхія.

Незвычайны зачын мае гэты мастацка-дакументальны твор: маленне на красу беластоцкае месяцовае ночы, успрыняцце яе праз вобразы, створаныя вялікім Куінджы ў ягонай карціне „Месяцовыя ночы над Дняпром”. Ужо пачатак твора характарызуе аўтара як асобу, здольную бачыць прыгажосць ва ўсёй яе паўнаце і разнастайнасці: „...Зменлівыя формы воблакаў, падсветленыя мяккімі колерамі — ад залацістага серабра да далікатнай салатавай зелені, якая несла надзею на штосьці важкае, што несумненна можа здзейсніцца неўзабаве і прынесці табе радасць”. Эстэтычная асалода выступае ў якасці таго прыцягальнага імпульсу, калі павінна адбыцца нешта яшчэ невядомае, але, герой пэўны, незвычайнае. І гэта нешта не чакае, каб неўзабаве адгукнуцца, матэрыялізавацца. Вестка, якая ў сучаснасці часцей прыходзіць з тэлефанаваннем, адначасна і абрывае рэфлексіўна-сузіральны стан, і становіцца завязкай вандроўнага сюжэта — праз Еўропу на Корсіку.

Адно з самых моцных уражанняў пачатку вандроўкі — здольнасць жыхароў Нямеччыны „спантанна расслабляцца”, што ў першы момант падалося падарожнікам недарэчным. Але атмасфера карчмы, куды яны трапілі ў першы вечар, настолькі запаланіла, што і яны „аддаліся піўному шаленству”. У душу героя ўваходзіць ні з чым не параўнальнае адчуванне свабоды, калі чалавек цалкам адкідае нялёгкія штодзённыя клопаты. „Тут ты вольны” — гэтая думка пачынае авалодваць героем. Ён адчувае волю ўсім нутром. Так, як яе разумела Ларыса Геніюш. Згадаем яе вершаваную мініяцюру:

Воля — не тое, што рукі развяжуць,
Зменяць на большую клетку малую.
Воля — не тое, што „вольны ты” скажуць,
Воля — то воля, якую адчую.

Свабода, якая сыходзіць не са знешніх, тым больш навязаных ідэалагічных догмамі, уяўленняў, а з асабістых адчуванняў, калі ў чалавека нішто не вісіць над душою. А праблема асобы ўрэшце зводзіцца да праблемы шчасця. Звычайнымі ў сучасным свеце (і не толькі сучасным) з'явамі становяцца канфлікты з іншымі, са светам і з сабою, што вядуць да дэфармацыі, а то і распаду асобы. Наогул, уласна і для аўтара, які раскрывае сваё, перажытае, вельмі важным з'яўляецца пачуванне асабістай свабоды пры напісанні твора.

Герой аповесці якраз і выяўляе такое адчуванне свабоды, калі чалавек пачуваецца шчаслівым. Ён здольны адкінуць тое з будзённага, што выклікае „чорныя” думкі. Тут ён недасяжны для ўсяго злога: „Усё гэта засталося недзе там. Тут ты вольны, таму што сюды іхняя моц ніякім чынам не ў змозе дабрацца, каб запаланіць твае эмоцыі і ўпіхнуць цябе ў чорнае месіва дурных роздумаў, кідаючых цябе ў працяглую фрустрацыю, каб ты траціў час на шкодную табе непатрэбшчыну”.

Быць вольным і шчаслівым у такой прыемнай вандроўцы, на першы погляд, зусім проста. Але складнікі шчасця дадзенай асобы значна глыбей. Яны маюць трывалы грунт: сям'я, каханая жонка. Аўтар пяшчотна называе яе Люляй. І хоць прага красы, якая жыве ў ім, нястомна патрабуе не прамінуць, удавана, часцей з гумарам ацаніць прыгажосць кожнае выпадкова сустрэтае харашухі, усё ж вялікае каханне, шчырая павага, бязмежнае шанаванне — толькі ёй, адзінай. Невыпадкова вырываецца ў яго крыху прыхаванае, але такое шчырае, такое жарснае прызнанне: „А калі ўсё заціхне і толькі Месяц з Юпітэрам паплывуць навыперадкі..., зразумееш, што няма прыгажэйшай, няма больш пульсіруючай жаноцкасцю ва ўсім свеце за яе. За Люлю тваю, з сузор'я Скарпіёна”.




Складнік шчасця і добрыя дзеці, якія ні разу не засмуцілі бацькоў. Згадаем, як, рызыкуючы сабою, кінуўся сын ратаваць бацьку, калі той, выплываючы з глыбіні, вырашыў неразумна пажартаваць. Ці старэйшы сын, які заступіў бацьку ў няпростых працоўных справах, даўшы магчымасць для гэтага падарожжа. Гэта не азначае, што аўтар малюе ідылічную карціну поўнае згоды, аднадушнасці думак, ацэнак. Не, праблема „бацькі і дзеці”, натуральна, паўстае. Да прыкладу, здзіўляе бацьку ўспрыняцце Паўлам Напалеона, якое не адпавядае ягоным поглядам на гэтую гістарычную асобу. Ці ўпэўненасць сына, што „змены ў свеце ідуць у добрым напрамку”, на што бацька глядзіць з вялікай доляй скепсісу. Але ў яго хапае вытрымкі і разумення, што гэта трэба прыняць, бо гэта праблема адвечная, бо „так было, ёсць, і, відаць, будзе. І ты нічога не можаш зрабіць”.

Герой Віктара Стахвюка — асоба адметная. Гэта мастак, які не рэалізаваўся, але застаўся мастаком у душы. Гэта натура, здольная бачыць незвычайнае. Незвычайнасць колераў (ён аматар каларыстыкі), формаў. Здольная захапляцца. Вызваленне ад штодзённага існавання ён таксама, як мастак, тлумачыць пры дапамозе колераў: „Уяўленне на тое і дадзена Богам, каб ты мог вызваліцца ад шэрасці дня і зразумець, што свет, на які табе пашанцавала з'явіцца, не замыкаецца ў чорна-шэрых танах, у якія намагаюцца цябе зацыкліць непрыхільныя тваёй душы сілы”.

Багата старонак адведзена апісанню дарожных уражанняў: Генуя, Піза. А нават не наведаны, прамінулы Мілан таксама паўстае перад вачыма чытача. Бо калі заехаць немагчыма, то магчыма расказаць. Перадаць сваё шкадаванне: Мілан застаецца збоку. Але ён не застаўся неспазнаны чытачом дзякуючы аўтарскаму аповеду.

Затое наведана Піза, дзе падарожнікі захапляюцца Пізанскай вежай — цудам свету. Гэтае месца незвычайнае, бо незвычайна ўплывае на чалавека. Напачатку перададзены ўражанні мастака, майстра каларыстыкі: „Вечарэла. Доўгія цені значылі вастрынёй колераў контуры вуглоў. Промні сонца мільгалі залацістай чырванню ў шыбінах”. Затым пачынае апавядаць пісьменнік-псіхолаг, які імкнецца пранікнуць у душу героя, раскрыць не толькі ягоныя адчуванні, але і прычыны такога стану: „Міжволі адчувалася, што знаходзішся ў месцы асаблівым, эмануючым энергіяй. Раптам знікла спацеласць, а стрэс, які спадарожнічае чалавеку, у якога няма часу і які заўжды спяшаецца некуды, прапаў бясследна”. Аўтар не раскідваецца эпітэтамі. Перадае ўражанні стрымана. Выказвае крыху фантастычную гіпотэзу наконт прыцягальнасці гэтага месца, уплыву яго на людзей, не прэтэндуючы на ісціну ў апошняй інстанцыі: „Сапраўдная плошча цудаў. Цуд архітэктуры і чагосьці большага — цуд месца або месца моцы. Можа, нехта калі гэта патлумачыць. Тут нанава адкрываеш слова шпацыр. Цела тваё, твой арганізм акунаецца ў стан выцішэння, а ўнутры цябе родзіцца нешта, што закалыхвае цябе, быццам далікатная і ўсёагортваючая, насычаная глыбіннай любоўю музыка. Хто ведае, ці вострыя наканечнікі купалоў і сама вежа, накіраваная пад вуглом у вядомы архітэктарам-будаўнікам пункт неба, не збіраюць і кампрэсуюць энергію захаплення натоўпаў людзей, а можа скануюць іх веды і памяць і транслююць іх неапазнанымі чалавецтвам і навукай каналамі ў іншыя вымярэнні свету ці сусветы, каб там даваць сведчанне людской дабраты”. Як бачым, Віктар Стахвюк увесь час звяртаецца да маральных катэгорый.

Прырода, маці ўсяго жывога, якая вяртае чалавека ў стан дзіцячае чысціні, успрыняцця жыцця як вялікай радасці існавання робіць яго дабрэй: „Калі твой мозг вымыты глыбінёй заліву Порта Міжземнага мора да бязгрэшнасці дзіцячай чысціні, у закалыхваючых цябе абдымках найпершай маці — планеты Зямля, напаўняешся жаданнем тварыць дабро і радасць”.

Магутным акордам гучыць матыў свабоды на Корсіцы, жыхары якое не скарыліся са страчанай незалежнасцю. Аўтар апісвае, як яны слухаюць песні вядомага спевака, як успрымаюць кожнае слова пра свабоду. Апісанне ўдала перадае магутную дынаміку, энергетыку пачуцця і руху натоўпу: „Яны ў экстазе зрываліся з месцаў і бурна рэагавалі, а рэха іх магутнага клічу пралятала праз гай і, акрыленае магутнасцю доўгачаканай волі, адбівалася з шматкратнай сілай ад Капу Вітулю і супрацьлеглай гары, каб... сутыкнуцца з імпэтам і рвануць увысь над эўкаліптавым гаем, пад купал карсіканскага неба — каб абвясціць акупанту, што час волі блізкі...

Лібэртэ!

Што можа быць даражэйшае для людзей, для кожнага чалавека!? Для падляшскага беларуса таксама.

Вольнасць!

Свабода!”

І рытарычнае пытанне і воклічы, і вылучэнне ў асобны радок словаў-сімвалаў — усё гэта спрые дакладнаму адлюстраванню рамантычнага покліча свабоды. Безнадзейна раматычнага, калі мець на ўвазе ўдакладненне пра беларусаў.

Корсіка — прыгожая. Гэта галоўны матыў твора — адкрываць красу, даўно адкрытую светам, апісаную ў мастацкіх творах, турыстычных даведніках. І вось ужо твая чарга, табе падараваны шчаслівы выпадак угледзець усё гэта, адкрыць для сябе па-новаму, убачыць так, як ніхто да цябе не бачыў.

Шматлікія апісанні падводных глыбіняў не надакучваюць, бо шторазу на шляху вандроўнікаў узнікае нешта новае, перад вачыма паўстаюць разнастайныя марскія пейзажы, горныя хрыбты, упадзіны, адбываюцца новыя прыгоды. Разам з героямі чытач пастаянна знаходзіцца ў стане напружанага чакання чагосьці незвычайнага. Разам з імі поўніцца захапленнем першаадкрывальнікаў: „Міжвольна нараджалася пачуццё, узбуджанае падсвядомым разуменнем магутнасці падводнай стыхіі, яе неабсяжнай моцы, дзе мы — істоты з іншага свету, загубленыя ў яе невымерных прасторах, прыведзеныя сюды пераможнай цікаўнасцю, менавіта гарачым жаданнем перажыць немагчымае, насыціць інстынкт даследчыка новых сусветаў”.

Перад намі паўстае дзівосны, уладкаваны, згарманізаваны падводны свет, які Віктар Стахвюк называе Нептунавым дваром. Насельнікі яго ўражваюць стаўленнем да чужынца, спакойным успрыняццем чалавека-велікана, гэтага не зусім дарэчнага тут іншароднага цела: „Калі асвоішся зрокам і пачнеш бачыць формы і прасторы, а зараз жа і колеры, акунешся ў нешта, быццам з іншага сусвету, дзе ўверсе і ўнізе бурліць і перамяшчаецца жыццё ў няспешным рытме, а ты, груваcткі і шумлівы, уваходзіш на салоны, у іх нямы свет, бурчыш шыпучымі бурбалкамі, што пруць уверх з-пад мембраны акваланга і разбіваюцца аб купалы святыні, дзелячыся на мноства серабрыстых мячыкаў, і паўзуць, каб выбрацца навонкі. На дзіва, не выклікае гэта панікі сярод жыхароў маўклівага сусвету, якія надалей плаваюць і кружацца навокал, паглядаюць на цябе спакойна, без мітусні і без гамону”. Дапушчэнне, якое ўяўляецца аўтару, не на карысць чалавечаму грамадству. Годныя паводзіны насельнікаў глыбіні не могуць не выклікаць здзіўлення і захаплення: „А каб так у нашу прастору, асвоеную людзьмі, усплыў з-за краю нябёс велікан, ніколькі не падобны на нешта знаёмае, які б узнік вэрхал, якая паніка, страх і нянавісць, крык і беганіна! А тут не. Дзівата дзівосная!” Вандроўка ў марскія глыбіні вельмі небяспечная справа. Героям чакаюць многія марскія драпежнікі, між якіх самыя страшныя акулы. Аўтар даволі падрабязна апісвае паводзіны, характар гэтых забойцаў. А яшчэ падсцерагаюць чалавека баракуды, мурэны. І розная драбнейшая нечысць, такая, як марскія вожыкі. Усё гэта пераказваецца дэбютантам падводнага плавання, сынам, маладым хлопцам, якога кліча глыбіня і які яшчэ не зусім навучыўся хаваць свой страх. Але вучыцца старанна. Наогул, вобразам маладых людзей аддадзена належная ўвага. Гэта сыны, дзеці. Таму, зразумелы вялікі бацькоўскі клопат, трывога за іх лёс, жыццё, імкненне прадухіліць сённяшнія неспадзеўкі. Якраз на іх долю самае непрыемнае і выпала. Атака пачварнае мурэны на Паўла, з якою справіўся, бо агідная змяя, відаць, адчула небяспеку і для сябе. А самая вялікая бяда на глыбіні — азотавы наркоз, які вядзе да эйфарыі глыбіняў, калі чалавек перастае кантраляваць сябе. Менавіта ў такім стане апынуўся Павел: „У яго шырока адкрытых, а на самай справе вытарашчаных вачах, ігралі ненатуральныя эмоцыі, як у п'янага-п'янага чалавека. Яму было ўсё роўна, дзе ён. Павел мог у любую хвіліну паперці некуды за міражом і нават выкінуць з рота муштук, каб дыхаць вадою”. Толькі веды і спрыт дасведчанага падводніка-бацькі ўратавалі хлопца ад немінучае гібелі.

Такі стан абвастрае не толькі пачуцці, але і мысленне, прыводзіць да нечаканых адкрыццяў, якія, ізноў жа, цалкам прагматычным асобам прыняць немажліва, бо перакрэсліваюць даўно адкрытыя законы: „Мае лёгкія ўдыхалі міжзорную энергію, якая запаўняе шчыльна найменшыя куточкі, усе-ўсюсенькія, без следу вакууму... Няма вакууму. Няма і ўсё!” Бясспрэчна, вандроўнікі ў бяздонныя глыбіні маюць не толькі мэты пазнаваўчыя, эстэтычныя — узбагаціць сябе сузіраннем падводнае прыгажосці, але і мары патаемныя: „... Знайсці каркас якога-небудзь з соцень затопленых тут, у незлічоных праз многія стагоддзі бітвах, парусных караблёў”. Знайсці сляды тых, хто застаўся ў глыбіні назаўсёды. Спраўдзіць яе гэтым разам не ўдаецца. Але хіба мара становіцца менш прывабнай ад таго, што пакуль не спраўдзілася?

**Ала ПЕТРУШКЕВІЧ**

* Віктар Стахвюк „Пакуль змеркне дзень” Бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа”, Беласток 2014.

ISSN 0546-1960